Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 27 (4930) 7 ліпеня 2017 г.



## МАЯ ДУМКА

*Як вецер, як птушка,*
*дзе сонца, дзе зоры,*
*Так рвецца, нясецца ўдаль*
*думка мая;*
*Абымецца з небам, пакоціцца*
*ў мора,*
*Ў вялікае мора людскога*
*жыцця.*

*І ўдарыцца ў сэрца так*
*смутна, балесне, —*
*Як лісцем віхура, так ім*
*скалыхне,*
*Так ім закалоціць, аж*
*выклікне песню...*
*Ўжо з песняй ляціць зноў*
*да зор к вышыне.*

*Запеўшы пахвалай*
*нязведанай далі,*
*К вядомай павернецца*
*долі людской;*
*Адсвеціцца ў слёзах, як*
*свечка ў крышталі,*
*Ды ў свет зноў за сонцам,*
*за новай зарой!*

*На небе свабода, святло*
*і прыволле, —*
*А думцы замала: няма*
*там людзей;*
*Людзей на зямельцы*
*спаткае даволі,*
*Дык сонца і воля*
*не свецяць тут ей...*

*І так без упынку,*
*то к небу — дзе зоры,*
*Нясецца, як птушка,*
*ўдаль думка мая;*
*То скоціцца ў мора,*
*ў вялікае мора*
*Людскога, забытага шчасцем*
*жыцця.*

Янка Купала
*1910 г.*


*Фота Анатоля Клешчука.*

# КУПАЛАЎСКІ ЦУД

**Паставілі яму помнікі, зрабілі мемарыяльныя дошкі — праява нашай памяці. Ён хацеў, каб яго памяталі — значыць, зразумелі тое, што імкнуўся сказаць. Таму што тады, у свой час, не пра ўласнае жыццё клапаціўся, а пра будучыню свайго (на)роду песціў думкі. Час цяпер іншы, а яго думкі ўсё такія ж балючыя. Яго пытанні ўсё такія ж вострыя. І нават усе таямніцы яго жыцця да канца так і не раскрытыя. Можа, таму, што мы супакоілі сваю памяць. Памятаем чалавека — ёсць яго вобраз. Ці разумеем паэта? З яго душой?..**

**Свята ў гонар паэта — гэта магчымасць зразумець. Яшчэ і яшчэ раз. Прыйсці не толькі да яго — у музей, прыехаць у Вязынку ці Ляўкі — наблізіцца да яго Паэзіі.**

**Свята ў гонар паэта — гэта магчымасць суаднесці яго час і наш. Зразумець, наколькі пасунуліся далей у ідэях і задачах праз больш чым 100 гадоў. Таму што жыў ён думкамі пра нашу будучыню.**

**Свята Купалы — яшчэ і з беларускім адчуваннем купальскага цуду. Не ў сэнсе спадзявання на тое, што раптам можна здабыць нейкае абстрактнае шчасце. Яго Купалле — пра тое, што для народа цуд, калі прыходзіць у свет Асоба, што фармулюе думкі пра тое, у чым шчасце для народа і якімі шляхамі яго заслужыць, напрацаваць, здабыць. У гэтыя дні мы ідзём да Купалы: на імпрэзы ў тэатрах Купалаўскім і беларускай драматургіі, едзем у яго мясціны і нясём кветкі да помнікаў. Ці прыйдзем да яго?**

Працяг тэмы на стар. 5 ▶

## Пункціраў

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка зацвердзіў рашэнне савета фонду Прэзідэнта па падтрымцы культуры і мастацтва аб вылучэнні са сродкаў фонду 369 834 рублёў на фінансаванне творчых праектаў. Грошы будуць накіраваны на выкананне рэстаўрацыйных работ і капітальны рамонт Барысаглебскай (Каложскай) царквы XII стагоддзя ў Гродне і кансервацыю Княжацкай вежы Крэўскага замка XIV стагоддзя. Акрамя таго, сродкі вылучаць Нацыянальнаму Полацкаму гісторыка-культурнаму музею-запаведніку на таніраванне адслоеных роспісаў XVIII — XIX стагоддзяў Спаса-Праабражэнскай царквы XII стагоддзя. Прынцыпе распараджэння Прэзідэнта Беларусі — сведчанне ўвагі дзяржавы да захавання і папулярызацыі гісторыка-культурнай спадчыны, стварэння спрыяльных умоў для пазіцыянавання беларускай культуры і яе гісторыі як складніка сусветнай культурнай прасторы.

✔ Штурмавы сцяг, узняты 3 ліпеня 1944 года над будынкам Беларускага дзяржаўнага тэатра, можна было ўбачыць 3 — 5 ліпеня ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны (Зала Перамогі). Першымі сцяг убачылі наведвальнікі музея, якія сталі ўдзельнікамі святочнага мерапрыемства «Як красаваўся, красавацца чырвоны сцяг над намі будзе», прысвечанага Дню Незалежнасці Рэспублікі Беларусь. У назву пакладзены радкі з верша Янкі Купалы «Зноў будзем шчасце мець і волю» (1942). Штурмавы сцяг быў перададзены музею 2 студзеня 1945 года аддзелам агітацыі і прапаганды Цэнтральнага камітэта Камуністычнай партыі Беларусі. Звестак пра людзей, якія ўзнімалі сцяг, не захавалася.

✔ Мазырскі цэнтр цыркавога мастацтва «Арэна» заваяваў Гран-пры фестывалю цыркавога мастацтва *Circuba 2017*, паведаміла дырэктар цэнтра Наталля Дайнэка. Мазырскія артысты таксама ўганараваныя прэміяй глядацкіх сімпатый і двума спецыяльнымі прызамі — ад кубінскай Нацыянальнай школы цырка і ад Саюза журналістаў Кубы. У фестывалі *Circuba 2017*, які прайшоў на Кубе 16-ы раз, бралі ўдзел артысты з Чылі, Аргенціны, Перу, ЗША, В'етнама, Францыі, Вялікабрытаніі, Іспаніі і Італіі.

✔ Літаграфіі Марка Шагала для выданняў пра мастака прадстаўлены на выстаўцы «Марк Шагал: колер любві» ў Нацыянальным мастацкім музеі, якая будзе працаваць да 12 верасня. Літаграфіі выкананыя ў асноўным у 1950 — 1960-я гады як ілюстрацыі да розных выданняў, прысвечаных самому Шагалу. Мастак выконвае ілюстрацыі да тэкстаў пра сябе, ілюструе самога сябе. На выстаўцы прадстаўлены адзінаццаць каляровых і адна чорна-белая («Вёска») літаграфіі з ліку тых, што ўвайшлі ў манаграфію «Шагал» вядомага французскага мастацкага крытыка і гісторыка мастацтва Жака Ласеня, з якім мастака звязвала шматгадовае сяброўства.

✔ Выстаўка гомельскага фатографа і падарожніка Юрыя Бірукова «Мама Афрыка. Плямёны і традыцыі» адкрылася ў гомельскім Музеі фатаграфіі. У экспазіцыю ўвайшлі фотаработы Юрыя Бірукова, а таксама прадметы, прывезеныя ім з афрыканскага кантынента. Экспазіцыя знаёміць наведвальнікаў з жыццём, традыцыямі, культурай дзясяткаў каларытных плямёнаў, якія жывуць па законах, што не змяняюцца стагоддзямі. Аўтар прадставіў фатаграфіі з паездак па трох афрыканскіх краінах: Эфіопіі, Танзаніі і Намібіі, у якіх захаваліся самабытныя плямёны.

# АМАТАРЫ

## Школа любові да беларускага

**Міжнародная летняя школа беларусістыкі працуе на базе Рэспубліканскага інстытута вышэйшай школы БДУ з 4 ліпеня. Яе правядзенне прымеркавана да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання. Слухачамі сталі 60 чалавек з Індыі, Украіны, Японіі, Венгрыі, Чэхіі, Германіі, Кітая, Расіі, Грузіі, ЗША, Інданезіі, Іспаніі, Латвіі, Літвы, Польшчы, Славакіі, Сербіі і Швецыі.**

Як адзначаюць арганізатары (кафедра маладзёжнай палітыкі і сацыякультурных камунікацый РІВШ і БДУ), навучанне арганізавана па трох праграмах: «А», «В» і «С», якія разлічаны на розную моўную падрыхтоўку і веды ўдзельнікаў. У двух групах ахвотныя вывучаюць беларускую мову «з нуля». Усе праграмы ўключаюць па 40 гадзін лекцый і столькі ж практычных заняткаў па фанетыцы, граматыцы, развіцці вуснага і пісьмовага маўлення, а таксама спецыяльныя лекцыйныя курсы па разнастайных аспектах беларускай мовы, гісторыі і культуры. Для тых, хто навучаецца па праграме «С», прадугледжаны яшчэ і індывідуальныя заняткі па ўдасканаленні беларускай мовы.

Апроч непасрэдна навучання, замежных удзельнікаў чакае насычаная культурная праграма. Яна ўключае наведванне шэрагу музеяў Беларусі, экскурсію ў старажытны Полацк і многае іншае. Таксама аматары беларушчыны ўдзельнічалі ў мерапрыемствах, прысвечаных Дню Незалежнасці краіны. Сюрпрыз для слухачоў — удзел у святкаванні Купалля ў ноч з 6 на 7 ліпеня ў Беларускім народным музеі народнай архітэктуры і побыту ў вёсцы Строчыцы. Скончацца заняткі ў Міжнароднай летняй школе беларусістыкі 15 ліпеня.

Яраслаў ЛЫСКАВЕЦ

# Спазнаць душу Мінска

## праз міжнародны праект гарадскіх экскурсій



Падчас экскурсіі «Мінск 15:15».

**Міжнародны праект гарадскіх экскурсій «Туры 15:15» паспяхова стартаваў у Мінску. Сімвалічна, што сталіца Беларусі стала пятнаццатым горадам, у якім дзейнічае праграма аглядных экскурсій-прагулак у кампаніі мясцовых жыхароў, — нароўні з Амстэрдамам, Парыжам, Лонданам, Рыгай, Лісабонам, Будапештам ды іншымі гарадамі Еўропы.**

У праграме экскурсій «Туры 15:15» арганізатары робяць стаўку на асабістае ўражанне вандроўніка, які ў горадзе ўпершыню. Сутнасць праекта — не ў звычайнай экскурсіі, а ў спалучэнні гістарычнай інфармацыі з практычным асвятленнем сучаснага жыцця горада. Падчас экскурсій удзельнікі наведваюць не толькі знакамітыя месцы, але і куточкі горада, гісторыя якіх невядома нават мясцовым жыхарам. Як адзначаюць арганізатары, паспяховасць праекта ў большасці залежыць ад гідаў: выкладаць не «сухую» інфармацыю, а зачапіць цікавымі фактамі, рэальнымі гісторыямі і легендамі, дзякуючы якім у турыста сфарміруецца цэласнае ўяўленне пра горад. Адна з галоўных мэт праекта — адысці ад стэрэатыпаў, паказаць горад чароўным, каб сюды захацелася вярнуцца яшчэ не раз.

— Мы расказваем пра ўсё, што хоча ведаць наш госць: ад курса абмену валют да вырашэння лагістычных пытанняў — тлумачым, напрыклад, як хутчэй і зручней дабрацца ў аэрапорт, — расказвае заснавальнік і ідэйны натхняльнік праекта Яўген Цыбулька. — Але галоўная фішка, якая стала асновай праекта, — нашы гіды, якія паказваюць гасцям «жывы» Лондан, Лісабон ці Мінск. Гэта людзі, улюбёныя ў сваю прафесію і свой горад, гатовыя распавядаць пра яго гадзінамі. Дарэчы, усе экскурсаводы маюць неабходную кваліфікацыю або дазвол на працу. Так, мінскія гіды атэставаны Нацыянальным агенцтвам па турызме.

Асноўная аўдыторыя праекта — рускамоўныя турысты, якія прыязджаюць з усіх краін былога Савецкага Саюза. Як і ў астатніх гарадах, экскурсія ў Мінску кожны раз пачынаецца а 15:15. Нават калі запішацца адзін чалавек, экскурсавод усё роўна абавязаны выканаць сваю працу.

— Развіваючы наш праект у Еўропе, мы заўсёды зыходзілі з таго, што лепшы спосаб зразумець душу горада — прайсціся пешшу, — адзначае Яўген Цыбулька. — Мінск — паўнавартасная еўрапейская сталіца, і тое, што яна пакуль не так добра вядомая вандроўнікам, як Парыж або Лондан, хутчэй перавага, чым недахоп. Пасля адмены віз для грамадзян васьмі дзясяткаў дзяржаў Беларусь стала вельмі прывабнай для ўязнога турызму. І ў гэтым заслуга дзяржавы, якая ўспрымае турызм як перспектыўны кірунак экспарту паслуг.

Зараз праект «Туры 15:15» і авіякампанія «Белавія» запусцілі сумесную акцыю: у перыяд з 15 жніўня па 15 верасня 2017 года пасажырам, якія падарожнічаюць рэйсамі авіякампаніі ў Мінск, будзе даступна бясплатная экскурсія «Мінск 15:15» на рускай мове.

Вікторыя АСКЕРА

### Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**8 ліпеня** — *на рэспубліканскае свята паэзіі «З адною думкаю аб шчасці Беларусі…», прысвечанае 135-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы, у Купалаўскі мемарыяльны запаведнік «Вязынка» Маладзечанскага раёна. Пачатак а 13-й гадзіне.*

**11 ліпеня** — *у Барысаўскую цэнтральную раённую бібліятэку імя І. Х. Каладзеева на ўрачыстае адкрыццё фотавыстаўкі Міхаіла Крыжаноўскага «Пісьменнік і час», прысвечанай дзейнасці сталічнай пісьменніцкай арганізацыі. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**11 ліпеня** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Георгіем Марчуком у межах рэспубліканскай акцыі «Лета з добрай кнігай» у дзіцячую бібліятэку № 15. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**11 ліпеня** — *на творчую сустрэчу з пісьменніцай Аленай Шчарбаковай у межах рэспубліканскай акцыі «Лета з добрай кнігай» у дзіцячую бібліятэку № 15. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

### Мінскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**7 ліпеня** — *на творчую сустрэчу з паэтэсай і дзіцячай пісьменніцай Ірынай Карнаухавай у кнігарню «Книжный мир» (г. Жодзіна). Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**13 ліпеня** — *на прэзентацыю зборніка паэтэсы Бажэны Мацюк (Ганушкінай) «Самасць» у кнігарню «Кругозор» (г. Вілейка). Пачатак аб 11-й гадзіне.*

### Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**10 ліпеня** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Уладзімірам Крайневым у кнігарню «Глобус» (г. Віцебск). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**10 ліпеня** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Фёдарам Палачаніным у межах акцыі «Лета з добрай кнігай» у аздараўленчы лагер СШ № 1 г. Докшыцы. Пачатак а 12-й гадзіне.*

### Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**7—8 ліпеня** — *на сустрэчу са старшынёй аддзялення Алесем Казекам, пісьменнікамі Мікалаем Барысенкам і Марынай Сліўко на «Беларускім купаллі» ў штогадовым фестывалі «Александрыя збірае сяброў». Час правядзення — 12.00 — 19.00.*

**7 ліпеня** — *на сустрэчу з пісьменнікам Мікалаем Давідовічам у дзіцячы аздараўленчы лагер «Мечта» (Бабруйскі раён, в. Шчаткава). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**7 ліпеня** — *на літаратурна-музычную вечарыну «Песняры пад белымі крыламі», прысвечаную 135-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа, з удзелам пісьменніка Міколы Леўчанкі ў Быхаўскую дзіцячую раённую бібліятэку. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

# МУЗЫЧНЫ ІНТЭРАКТЫЎ

## збірае ў суботу ля мінскай ратушы

**Заўтра ў сталіцы ў трэці раз пачнецца фестываль «Класіка ля ратушы», які за гады існавання прыцягнуў увагу тысяч слухачоў. Серыя канцэртаў на вольным паветры будзе ладзіцца з 8 ліпеня па 26 жніўня. Для мінчан і гасцей сталіцы выступяць спецыяльна запрошаныя музычныя калектывы з тэматычнымі праграмамі класічных твораў. Праект «Класіка ля ратушы з *velcom*» рэалізуецца Мінскім гарадскім выканаўчым камітэтам пры генеральнай падтрымцы кампаніі *velcom*. Сёлета да ліку арганізатараў далучылася канцэртнае агенцтва «ЭквілібрыумАрц».**

Падчас фестывалю ўвазе наведвальнікаў будуць прапанаваны восем арыгінальных праграм, якія прадстаўляюць сусветныя шэдэўры класічнай музыкі. Іх прэзентуюць мінскай публіцы калектывы і артысты, добра вядомыя як у Беларусі, так і далёка за яе межамі.

— У кожнага горада — свая атмасфера, асаблівы настрой і мелодыя, — падкрэсліў дырэктар канцэртнага агенцтва «ЭквілібрыумАрц» Захар Дудзінскі. — «Класіка ля ратушы з *velcom*» ператвараецца ў традыцыйную і запатрабаваную падзею лета, становіцца яшчэ адной унікальнай рысай у партрэце любімага Мінска — горада, дзе музыка жыве побач з людзьмі, гучыць не ў замкнёных прасторы канцэртных залаў, а ўсюды, дзе ёсць ахвотныя слухаць яе і атрымліваць асалоду.

Праект «Класіка ля ратушы з *velcom*» прапануе наведвальнікам інтэрактыў: не проста слухаць музыку, а ўзяць удзел у спецыяльна падрыхтаваных конкурсах, звязаных з музычнай тэматыкай. Паколькі ўваход на канцэрты бясплатны, то і аўдыторыя пашыраецца, нават сем'і з маленькімі дзецьмі могуць камфортна адпачыць. Зыходзячы з таго, што фестываль ладзіцца ў трэці раз і канцэрты збіраюць мноства слухачоў, можна зрабіць выснову, што такія праекты неабходныя нашаму грамадству, яны фарміруюць музычны густ і аб'ядноўваюць праз прыемную атмасферу.

### СЁЛЕТА СЛУХАЕМ:

### 8 ліпеня — «Стагоддзе ў класіцы»

Сёлета Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Рэспублікі Беларусь адзначае 90-годдзе. Слухачоў чакае святочны канцэрт, падчас якога прагучаць перліны сімфанічнай і опернай музыкі ў выкананні «імянінніка» і запрошаных салістаў. Выканаўцы: Аксана Волкава (мецца-сапрана, Беларусь), Крысціян Бенедыкт (тэнар, Літва), Ірына Крыкунова (сапрана, Расія). Галоўны дырыжор — народны артыст Беларусі Аляксандр Анісімаў.

### 15 ліпеня — «Дырыжоры настрояў»

Незабыўнае гучанне галасоў падорыць слухачам Дзяржаўны камерны хор Рэспублікі Беларусь. Выканаўцы: дырыжор — заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Наталля Міхайлава, заслужаны калектыў Рэспублікі Беларусь «Гродзенская капэла» (дырыжор — Уладзімір Борматаў).

### 22 ліпеня — *«Tour de classik»*

Гісторыя музычнай Францыі ў выкананні лепшых майстроў мастацтваў Беларусі і запрошанага госця з Францыі — барытона Аліўе Эта. Іншыя выканаўцы: Дзяржаўны камерны аркестр Рэспублікі Беларусь (галоўны дырыжор — Яўген Бушкоў), дырыжор Ігар Бухвалаў, лаўрэат міжнародных конкурсаў Павел Бацян (скрыпка, Беларусь).

### 29 ліпеня — «Гульня ў класікі»

Вечар прысвечаны творчаму альянсу класічнай музыкі з джазам у выкананні ансамбля ўдарных інструментаў *Grig Percussion Group* і канцэртнага аркестра «Няміга» (дырыжор — Аляксандр Сасноўскі). Сярод выканаўцаў таксама — квінтэт *Jazzology*.

### 5 жніўня — «Поры года»

Слухачы пачуюць творы Астара П'яцолы, Пятра Чайкоўскага, Антоніа Вівальдзі. Выканаўцы: *Nouvelle Philharmonie* (Беларусь — Францыя — Нідэрланды — Германія), Арцём Шышкоў (скрыпка). Сяргей Смірноў (фартэпіяна), Дзмітрый Цыпкін (віяланчэль), струнны аркестр Кансерваторыі музыкі імя Джузэпэ Тарціні (г. Трыест).

### 12 жніўня — «Беларуская рапсодыя»

У аснове вечара ансамбля «Мінск-Класік» (пад кіраўніцтвам Максіма Расохі) — музыка з кінафільмаў 60 — 70-х гадоў беларускага кампазітара Яўгена Глебава. Працягнуць праграму творы беларускіх кампазітараў для музычнага тэатра ў выкананні салістаў і музычнай капэлы «Санорус» (дырыжор — Марына Траццякова).



### 19 жніўня — «Класіка без межаў»

*Il CULTURE Orchestra (ICO)* — гэта ансамбль незвычайна адораных маладых музыкаў з Польшчы і краін Усходняга партнёрства — Арменіі, Азербайджана, Беларусі, Грузіі, Малдовы і Украіны, створаны ў 2011 годзе Інстытутам Адама Міцкевіча (дырыжор — Андрэй Барэйка).

### 26 жніўня — «Яе вялікасць класіка»

Галоўны сімфанічны аркестр краіны пад кіраўніцтвам маэстра Аляксандра Анісімава запрашае слухачоў на заключны канцэрт «класічных субот» з сусветнай класічнай музыкі. Іншыя выканаўцы: Ірына Крыкунова (сапрана, Расія), Цімур Сергеяня (фартэпіяна, Беларусь — Бельгія).

**Вікторыя АСКЕРА**

## Дайджэст

• Штогадовы літаратурны конкурс «Новая дзіцячая кніга» аб'явіў шорт-ліст 7-га сезона. З 4932 заявак у фінал выйшла 31 кніга. У кароткі спіс трапілі творы з Беларусі, Іспаніі, Канады, Балгарыі і Расіі. Сёлета конкурс уключае дзве тэкставыя намінацыі: «Вершы і казкі для самых маленькіх» і «Свет фэнтэзі», а таксама намінацыю для мастакоў «Новая дзіцячая ілюстрацыя». Работы, якія прайшлі ў фінал, будзе ацэньваць экспертнае журы, у складзе якога — пісьменніца Мірыям Петрасян, паэтэса Марына Барадзіцкая, генеральны дырэктар кампаніі «ЛітРэс» Сяргей Анур'еў ды інш. Пераможцу конкурсу вызначаць 28 верасня.

• Брэст трапіў у рэйтынг лепшых недаследаваных месцаў для еўрапейскіх канікул. Горад знаходзіцца на 19-й пазіцыі з 44 магчымых. Першае месца рэйтынгу заняў рэгіён Астурыя і манастыр Кавадонга ў Іспаніі. Спіс створаны з дапамогай экспертаў па турызме, а месцы ацэньваліся па прыгажосці, запатрабаванасці, кошце пражывання, зручнасці і магчымасці выкарыстання плацежных карт. Брэст вядомы багатай гісторыяй, захоўвае часткі розных культур, а Брэсцкая крэпасць — адзін з самых важных манументаў краіны, адзначае брытанскае выданне *The Independent*. Наступныя пасля Брэста пазіцыі рэйтынгу занялі азербайджанскі горад Шэкі і возера Севан у Арменіі.

• Пераклад Грамадзянскага кодэкса Рэспублікі Беларусь на беларускую мову амаль скончаны і ў 2018 годзе будзе зацверджаны ў якасці афіцыйнага перакладу. Каля 600 старонак і 126 тысяч слоў дакумента перакладалі на адмысловай платформе. Зараз кіраўнікі праекта працуюць над юрыдычным бокам кодэкса. Дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу і намеснік старшыні ТБМ Алена Анісім абмеркавала з міністрам юстыцыі Алегам Сліжэўскім пытанне прыняцця новых законаў на беларускай мове, прапанавала зрабіць справу перакладу законаў сістэмнай і стварыць экспертную камісію з удзелам мовазнаўцаў ды юрыстаў, у кампетэнцыю якой будзе уваходзіць зацвярджэнне тэкстаў заканадаўчых актаў на беларускай мове.

• У Беларусі пачаўся збор сродкаў на новую серыю кніг «Амерыканка», якая аб'ядна вострыя і скандальныя кнігі культавых пісьменнікаў Паўночнай Амерыкі пра свабоду і чалавечую годнасць. Спачатку плануецца выдаць чатыры пілотныя кнігі: у кішэнным фармаце надрукуюць раманы «Байцоўскі клуб» Чака Паланіка, «Чытво» Чарлза Букоўскага, «Пенелапіяда» Маргарэт Этвуд, а ў вялікім фармаце выйдзе раман «Палёт над гняздом зязюлі» Кена Кізі. Перадзамовіць друкаваныя або электронныя выданні можна да верасня.

• Абвешчаныя вынікі 39-га Маскоўскага міжнароднага кінафестывалю. У асноўным конкурсе за прызы змагаліся 13 карцін. Самыя яркія фільмы года выбірала журы, у склад якога ўвайшлі вядомыя рэжысёры з Іспаніі, Фінляндыі і Ірана, кінематаграфісты з Германіі і Італіі. Галоўны прыз «Залаты Святы Георгій» за лепшы фільм атрымала кітайская карціна «Чубаты ібіс» Лян Цяа, а спецыяльным прызам журы ўзнагароджаны рэжысёр Рустам Хамдамаў за стужку «Мяшок без дна». Прыз за лепшую рэжысуру атрымаў Фікрэт Рэйхан за фільм «Спякота» з Турцыі. У дакументальным конкурсе пераможцам стала кінастужка «Опера», створаная ў капрадукцыі Францыі і Швейцарыі, а ўзнагароду за лепшы кароткі метр атрымаў нарвежскі фільм «Хуткая дапамога».

## ЛіМ-каляндар

**3 ліпеня** — 115 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Таланкіна (1902 — 1957), беларускага спевака, заслужанага дзеяча мастацтваў Бураціі.

**3 ліпеня** — 110 гадоў з дня нараджэння Алеся Стаховіча (1907 — 1956), беларускага празаіка.

**3 ліпеня** 70 гадоў адзначыла Тацццяна Камароўская, беларускі літаратуразнаўца.

**4 ліпеня** 75-годдзе адзначыла Валянціна Грыгарышына, беларускі майстар дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва.

**5 ліпеня** 75 гадоў святкаваў Сяргей Салохін, беларускі мастак манументальна-дэкаратыўнага мастацтва, жывапісец.

**6 ліпеня** 95 гадоў споўнілася Яўгеніі Рамановіч, беларускаму мовазнаўцу.

**6 ліпеня** — 90 гадоў з дня нараджэння Канстанціна Харашэвіча (1927 — 2013), беларускага жывапісца.

**6 ліпеня** — 80 гадоў з дня нараджэння Пятра Драчова (1937 — 2005), беларускага графіка, акварэліста.

**7 ліпеня** — 135 гадоў з дня нараджэння Янкі Купалы (1882 — 1942), беларускага паэта, драматурга, публіцыста, перакладчыка, грамадскага дзеяча, народнага паэта БССР.

**7 ліпеня** — 130 гадоў з дня нараджэння Марка Шагала (1887 — 1985), сусветнавядомага мастака паходжаннем з Беларусі.

**8 ліпеня** — 105 гадоў з дня нараджэння Вікенція Бруя-Шуляка (1912 — 1985), беларускага спевака, заслужанага артыста БССР.

**8 ліпеня** 70-годдзе святкуе Алег Залётнеў, беларускі кампазітар.

**9 ліпеня** — 105 гадоў з дня нараджэння Сяргея Астрэйкі (1912 — 1937), беларускага паэта.

**9 ліпеня** 85 гадоў адзначае Марыя Карпенка, беларускі публіцыст, заслужаны работнік культуры БССР.

# «Не знішчыць слова гэта»

## Пра што сведчаць творчыя работы, дасланыя на літаратурны конкурс «Скарынавай душой узлашчанае слова»

**Конкурс быў абвешчаны Саюзам пісьменнікаў Беларусі на пачатку 2017-га — з нагоды і ў гонар паўтысячагоддзя запачаткавання беларускага кнігадрукавання. Удзел у творчым спаборніцтве ўзялі не толькі пачаткоўцы, але і вядомыя пісьменнікі, такія як Георгій Марчук, Васіль Ткачоў, Зіновій Прыгодзіч, Яўген Хвалей, Георгій Тамашэвіч, Яна Явіч, Васіль Макарэвіч ды многія іншыя.**

На вялікі жаль, Васіль Сцяпанавіч Макарэвіч не дачакаўся вынікаў конкурсу, а быў бы вельмі ўсцешаны. Нават не перамогай свайго асабістага твора «Паэма Скарыны», дзе ёсць такія радкі:

*Каму, можа,*
*Д'яблу было на руку,*
*Што мы не маглі*
*з ім калісьці раскрыліцца?*
*Як быццам не ён*
*на друкарскім станку*
*Адціснуў Святое Пісанне*
*Кірыліцай.*
*Скарына*
*Для люду старонкі адкрыў,*
*Каб розных іўдаў*
*на свеце паменела.*
*І свежым дыханнем,*
*нібыта ад крыл,*
*Ад сказаў біблейскіх адразу*
*Павеяла.*

Пафасам прасякнута ўся паэма, якая вартая ўвагі самай шырокай аўдыторыі. Але майстры слова ў гэтым конкурсе вырашылі саступіць тым, хто толькі спрабуе сябе ў слоўным прыгожым мастацтве. Гэта вялікае шчасце — спрычыніцца да творчасці сапраўдных майстроў слова, разам з імі ўдзельнічаць на роўных у прэстыжным рэспубліканскім конкурсе. Дарэчы, прэстыж яго ўзнялі самі канкурсанты. Іх работы настолькі моцныя, што шасці прызавых месцаў (адно першае, два другія і тры трэція) яўна недастаткова, таму вышукваюцца магчымасці заахвоціць і іншых удзельнікаў літаратурнага спаборніцтва. І гэта будзе правільна, бо каму, як не пісьменніцкай арганізацыі краіны, заўважаць і падтрымліваць новыя літаратурныя таленты Беларусі.

Работы пераможцаў могуць быць прэтэндэнтамі на тое, каб іх тэксты гучалі з высокай сцэны ў Полацку падчас святкавання Дня беларускага пісьменства. І не толькі тэксты, але і інсцэніроўкі, драматычныя дзеі. Напрыклад, аўтара Антося Уласенкі. Яму трыццаць гадоў. Жыве ў горадзе Маладзечне. Дзіўна, што пакуль не вядомы як літаратар. Напэўна, шмат хто пагодзіцца з такім сцвярджэннем, прачытаўшы яго інтрыгоўны драматычны твор пад назвай «Францыск Скарына: ля выйсця дарог». Гэты твор члены журы конкурсу аднагалосна прызналі лепшым сярод літаратараў-пачаткоўцаў.

*Ці яшчэ ўчытаемся ў такія радкі:*
*Усмешкаю завілістых дарог*
*Усё жыццё вяла мяне трывога.*
*І Месяц, роўна як усмешка Бога,*
*Прыўзняў краёчкаў з'едлівых ражок.*
*Чаго я здолеў выхадзіць сабе,*
*Калі быў выгнаны з усіх прытулкаў?*
*Калі штодня сцірала ногі мулка*
*Вандроўніцтва ў нягодзе і журбе?*
*Навошта я пайшоў ад Палаты,*
*Няўдалы Гутэнберга паслядоўнік?*
*Я доктар філасофіі… Садоўнік…*
*Ці гэтага чакаў, Францішак, ты?*

Гэта невялічкая частачка з дасланага на конкурс твора пра Францыска Скарыну. Аўтар — Глеб Ганчароў з Мінска, юрыст, узрост — больш за паўвека, але ў літаратурным свеце пакуль не вядомы (аднак лепей пазней, чым ніколі, бо творы сапраўды вартыя ўвагі).

Ці вось вытрымка з яшчэ аднаго твора. Ён незвычайны адпачатку сваёй пабудовай, заснаваны на паяднанні музыкі і слова:

«Паэзія — гэта музыка, запісаная словамі, — піша аўтарка. — З уражанняў і ўспамінаў нараджаецца натхненне».

І вось ужо гучыць матыў, які застаецца толькі занатаваць. Прычым строга ў нотным парадку і строга па словах вершаў Янкі Купалы, які па значнасці для Беларусі не саступае вялікаму першадрукару. Першая нота…

«**До**... Дом. Родныя драўляныя сцены звычайнай сялянскай хаты, якія, аднак, насілі гордую назву сядзібы шляхетнай сям'і Луцэвічаў… І моцны боль-роспач за страчанае гняздо:

*Божа! Гэткі свет тут*
*Моц стварыла твая!*
*Дзе ж мой **дом**, дзе мой люд?*
*Дзе айчызна мая?*



Фота Анатоля Клешчука.

Полацкая Сафія над Дзвіной.

**Рэ**... Рэха. Водгук з наваколля, водгук ад продкаў…

*З плачам думка-песня льецца*
*Па замучанай старонцы,*
*З плачам **рэ**ха адаб'ецца...*
*Ці ты ўзойдзеш калі, сонца?*

**Мі**... Мінулае натхняе яго падзеямі з беларускай гісторыі, і так нараджаюцца Купалавы паэмы:

*Дуб галлё распусціў каранасты над ім,*
*Сухазелле ў грудзі ўпілося;*
*Вецер стогне над ім уздыханнем глухім, —*
*Аб **мі**нуўшчыне ў жальбах галосе…»*

Аўтар урыўка з адметнай публіцыстычнай работы, што грунтуецца на ўсіх нотах гукараду, — Таццяна Ігараўна Лашук з горада Гродна, якая вучыцца ў аспірантуры Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы.

Прызавыя месцы конкурсу раскінуліся не толькі па рэгіёнах, але сягнулі нават у замежжа. Напрыклад, Кірыл Анацка вучыцца ў 9 класе дзяржаўнай установы адукацыі «Каранёўскі яслі-сад — сярэдняя школа» Светлагорскага раёна Гомельскай вобласці. Ён даслаў на конкурс паэму «Сказ пра друкара Скарыну», у якой некаторыя радкі — хоць вынось на транспаранты Свята беларускага пісьменства ў Полацку. У творы разгортваецца жыццяпіс першадрукара, так бы мовіць, па перыядах: кракаўскі, падуанскі, пражскі, адкуль пачалася друкарская і асветніцкая дзейнасць, віленскі, дзе гэтая дзейнасць атрымала росквіт. А як хораша-прыгожа юны аўтар пераказаў па-свойму пажаданне-пасланне Францыска Скарыны нашчадкам-суайчыннікам:

*Да месцаў родных, людзі,*
*ласку майце!*
*Як птушкі, пчолы, рыбы і звяры,*
*Бароньце вуллі, гнёзд не забывайце*
*І чуйце рэчак спадчынных віры!*
*Да вас, сучаснікі, звяртаюся сурова*
*Скарыны словамі, які заўжды*
*прасіў:*
*Любіце, як святыню, тое слова,*
*З якім вас Бог на гэты свет пусціў!*

З вёскі Карані перамяшчаемся ў нямецкі Дзюсельдорф. Там жыве Святлана Кабанава. Яна нарадзілася ў Мінску, скончыла біялагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, потым — аспірантуру пры Акадэміі навук Беларусі. Кандыдат біялагічных навук. З 1996-га жыве ў г. Дзюсельдорфе. Аўтар паэтычнай складанкі «Пачатак» (2002 г.). Лаўрэат прэміі часопіса «Літаратурны Еўрапеец» (Франкфурт-на-Майне, Германія, 2004 г.). Лаўрэат шматлікіх міжнародных і беларускіх літконкурсаў, у тым ліку на лепшы верш пра Мінск, арганізаванага выдавецтвам «Чатыры чвэрці» сёлета. Сапраўдная беларуска, гэта адчуваецца ў тым ліку ў радках з верша «Матуля»:

*«Добры дзень, матуля!», —*
*Сэрца шчыра шэпча,*
*Светлы ты прытулак*
*У руціне шэрай!*
*«Ты — маё сумленне!», —*
*Дабаўляюць вусны,*
*Прыклад і натхненне —*
*Маці-беларуска…*

Яна Тарасевіч, вучаніца 10 класа Сямігосціцкай сярэдняй школы Столінскага раёна Брэсцкай вобласці, у сваёй навеле піша: «У самой прыродзе чалавечай закладзена прага кахання…» Яе шчырыя словы — чарговае пацвярджэнне таго, што ў беларускіх вёсках, у так званай правінцыі, якая зусім не правінцыя, а насамрэч асаблівая цывілізацыя, гадуецца цудоўная, здаровая ў духоўным і інтэлектуальным сэнсе моладзь. Ёй бы толькі падтрымкі. Саюз пісьменнікаў Беларусі са свайго боку робіць усё магчымае, каб ніхто з юных талентаў-даравітых не застаўся незаўважаным. Вось і юная ўдзельніца творчага спаборніцтва з палескай глыбінкі не проста не саступае іншым пераможцам конкурсу, а вельмі дастойна ўпісалася ў яго агульнае рэчышча.

Але ж і творы іншых удзельнікаў, што не трапілі ў лік пераможцаў, вартыя ўганаравання. Іх, дарэчы, абсалютная большасць, нават не ўлічваючы прафесійных пісьменнікаў, якія ідуць асобным радком — як маякі. Паказаць-прадэманстраваць новыя таленты — справа выключна важная. Усіх пералічыць цяжка, не тое што творы прадставіць. І гэта варта не артыкула, а асобнага выдання. У выніку конкурсу Саюза пісьменнікаў Беларусі можна канстатаваць адно: мы вельмі багатыя на таленты. І гэтыя таленты дзяржава мусіць падтрымліваць.

Завяршыць агляд дасланых работ хачу радкамі з верша Анатоля Зэкава, першыя радкі якога паслужылі назвай літаратурнага конкурсу:

*«Скарынавай душой*
*узлашчанае слова*
*крыляла над мяжой,*
*бруілася вяснова».*

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ,**
**намеснік старшыні**
**Саюза пісьменнікаў Беларусі,**
**кіраўнік конкурсу**

### Лаўрэаты конкурсу «Скарынавай душой узлашчанае слова»

**I месца:**

Антось Уласенка, г. Маладзечна (драматургія).

**II месца:**

Таццяна Лашук, г. Гродна (публіцыстыка);
Глеб Ганчароў, г. Мінск (паэзія).

**III месца:**

Кірыл Анацка, Гомельская вобласць, Светлагорскі раён, в. Карані (паэзія);
Святлана Кабанава, г. Дзюсельдорф, Германія (паэзія);
Яна Тарасевіч, Брэсцкая вобласць, Столінскі раён, в. Сямігосцічы (проза).

Віктар ШНІП

# Ліпень Янкі Купалы

*1.*
*ад рук матуліных і ад*
*калыскі*
*у ліпені пачалася дарога*
*Паэта*
*ад сэрца да сэрца*
*ад Беларусі і да Беларусі*
*па свеце белым*
*па цвеце белым*
*па снезе белым*
*дзе чорнага заўсёды*
*хапала*
*як чорнай зямлі*
*як чорнага дыму*
*як чорных груганоў*
*і чырвонай крыві*
*у свеце белым*
*у цвеце белым*
*у снезе белым*
*і ў Беларусі*

*2.*
*у Вязынцы хата Янкі*
*Купалы*
*як беларускі каўчэг*
*які плыве па траве як па*
*вечнасці*
*асвятляючы шлях да*
*Беларусі*

*3.*
*збіраюць пчолы мёд*
*як тутэйшае золата*
*якое і ў вершах Янкі*
*Купалы*
*заўсёды было і будзе*
*як Беларусь*

*4.*
*у Вязынцы Купалле*
*і плывуць па рацэ вяночкі*
*як нізкі вершаў*
*якія не паспеў запісаць*
*Янка Купала*

*5.*
*у Вязынцы хуткасныя*
*цягнікі*
*не спыняліся і не*
*спыняюцца*
*але ўсе беларускія дарогі*
*вядуць у Вязынку*
*як у нашу Мекку*
*і я іду да Янкі Купалы па*
*сцежцы*
*што ў траве не знікла*
*і гэтая сцежка*
*ніколі не знікне як*
*вечнасць*
*дзе нас чакае Янка*
*Купала*
*як наш Прарок*

*6.*
*на лузе копы сена*
*як шаломы тутэйшых вояў*
*якіх нідзе не бачна*
*але яны ёсць і яны*
*заўсёды гатовыя*
*бараніць родную зямлю*
*як заклікаў Янка Купала*

*7.*
*у купалаўскім садзе*
*светла ад яблыкаў*
*якія створаны сонцам*
*і беларускай зямлёю*
*у купалаўскім садзе*
*светла ад вершаў*
*што створаны Янкам*
*Купалам*
*душой і крывёю*

*
*у скверы Янкі Купалы*
*як і ў кожным скверы і*
*парку*
*вялікага горада*
*у кожным каменьчыку*
*у кожным лісточку*
*і ў кожнай травінцы*
*за якія зачапілася*
*восеньская павуцінка*
*сатканая з туману і неба*
*і на якой вісіць*
*кропелька сонца*
*вечнасць жыве*
*і ты ідзеш*
*да Янкі Купалы*
*у якога на плячы сядзіць*
*голуб*
*як на плячы нашага*
*Калумба*
*які адкрыў для нас*
*Паэзію*

*8.*
*купалаўскія ліпы*
*і купалаўскія творы*
*трымаюць неба над*
*Вязынкай*
*і над Беларуссю*

# Угледзецца ў аблічча Песняра...

Угасцёўні Купалавага дома — нізенькія столікі, ля якіх на крэселках, прынесеных Уладзіславай Францаўнай з дзіцячага садка, сядзяць шматлікія госці. Сябры і маладыя творцы прыйшлі павіншаваць Купалу з юбілеем. Пасля афіцыйнай урачыстасці ў кінатэатры «Культура» гаспадар крыху стомлены, але жартуе, адгукаецца на прачытаныя вершы. Сымон Баранавых уручае паэту падарунак — рэдкі на той час радыёпрыёмнік... Вось так Максім Лужанін апісаў святкаванне пяцідзесяцігоддзя Янкі Купалы, на якім апошні раз агучваў тост за здароўе паэта.




Сёлета юбілейныя ўрачыстасці распачаліся таксама ў Купалавым доме — прэзентацыяй зборніка выбраных вершаў Янкі Купалы «А хто там ідзе?» на славацкай мове. Над кнігай працавалі паэты-перакладчыкі Марыян Серватка, Яраслаў Рэзнік і Сяргей Макар. Сёння ж у дзень нараджэння паэта адбылося ўрачыстае ўскладанне кветак да помніка Янкі Купалы ў сталічным парку, які носіць яго імя. Тыя ж, хто не знайшоў магчымасці далучыцца да святкавання, могуць узгадаць паэта дзякуючы новай кнізе: «Янка Купала. Для тых, якіх люблю», што пабачыла свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура». І ўспаміны Максіма Лужаніна — адны з найцікавейшых у гэтым выданні.

Большую палову кнігі займаюць эсэ і ўспаміны пра паэта. Жыццё Купалы ўзнаўляецца са слоў яго сяброў, сваякоў і вучняў, але ёсць тут і больш праўдзівая гісторыя — каля паўсотні фотаздымкаў, дакументаў амаль непадуладных ідэалагічным патрабаванням у параўнанні з пісьмовымі тэкстамі савецкай эпохі. Некаторыя фотаздымкі адлюстроўваюць значныя падзеі з жыцця Івана Дамінікавіча, якія па тых ці іншых прычынах не былі ўзгаданыя аўтарамі. Але найбольш каштоўныя тыя выявы, якія дазваляюць адчуць душэўны стан паэта, — яны нярэдка дысануюць з тэкстам альбо дазваляюць уявіць, якія думкі аўтар пакінуў пры сабе.

Вернемся да першых старонак: пачынаецца кніга неспадзявана проста — успамінамі малодшай сястры паэта Леакадзіі Раманоўскай. Натуральна, што тэкст аднаго з самых блізкіх людзей мае адкрываць кнігу, выдадзеную да юбілею творцы. І менавіта гэтымі ўспамінамі можна распачаць першае знаёмства з жыццяпісам Купалы: маленькія чытачы будуць слухаць з задавальненнем, бо галоўная ўвага Леакадзіі Дамінікаўны была прысвечана дзяцінству брата.

Ёсць у кнізе і тэксты, якія зацікавяць людзей дасведчаных. Напрыклад, Франц Гінтаўт на некалькіх старонках распавёў пра Франуся Аўлачынскага — суседа Луцэвічаў па фальварку Селішча. На думку Гінтаўта, «жыццяпіс гэтага даволі цікавага чалавека, напэўна, дастасаваўся да задумы такіх твораў, як "Адплата кахання", "Паўлінка", "Сват", "Страх"». Пра першую пастаноўку «Паўлінкі» і свае стасункі з Янкам Купалам згадвала Паўліна Мядзёлка.

Калі ва ўспамінах сваякоў Іван Дамінікавіч паўстае чалавекам, які любіў прыроду, быў гасцінным, часта адведваў сясцёр і пляменнікаў, то літаратары, вядома, згадвалі Купалу найперш як паэта. Пятро Глебка адзначаў яго патрабавальнасць да тэхнікі верша і ўзнавіў дасціпную размову пра сімвалізм, Зінаіда Бандарына звярнула ўвагу на стаўленне Купалы да маладых літаратараў. З імі паэт часам абыходзіўся даволі строга: напрыклад, аднойчы закінуў у крапіву прыгожыя дарагія пальчаткі са словамі «Не трэба быць малпай...». Галоўная ж парада Янкі Купалы маладым савецкім паэтам: «У кожнага павінен быць свой голас».

Успаміны Максіма Лужаніна датуюцца 1962 годам. У гэты час можна было ўжо дастаткова свабодна згадваць колішнія размовы, а з маладым пісьменнікам Янка Купала быў шчыры: у 1930-я гг., і падчас знаходжання ў Маскве на пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Максім Лужанін дэталёва апісаў Купалу ў стасунках з іншымі людзьмі, узгадаў нямала цікавых эпізодаў. Асабліва падрабязна пісьменнік распавёў пра сустрэчы з Купалам у Маскве ў ліпені 1941 года, калі паэт быў у глыбокай роспачы...

Фотааб'ектыў зафіксаваў і іншыя падзеі: 1934 год, Янка Купала ў прэзідыуме I Усесаюзнага з'езда савецкіх пісьменнікаў нявесела глядзіць, як Максім Горкі падпісвае нейкія паперы. 1939 год, Купала зноў у прэзідыуме Саюза савецкіх пісьменнікаў: стрыманы твар і яшчэ большая гаркота ў куточках вуснаў. Адсланёнасць і відавочны недавер адрозніваюць Купалу ад іншых творцаў, якія трапляюць у кадр разам з ім. Найбольш уражвае фотаздымак 1940 года: Купала з запалымі шчокамі побач з уласным бюстам у майстэрні Заіра Азгура. Тады адбывалася гучнае святкаванне 35-годдзя творчай дзейнасці народнага паэта, але ён менш за ўсё падобны да задаволенага жыццём чалавека. Хай сабе Іван Дамінікавіч піша пра шчаслівых савецкіх грамадзян, аднак гэтыя фотаздымкі дазваляюць уявіць, з якім настроем ён іншым разам браўся за вершы.

Выбар вядомых твораў у кнізе дастаткова традыцыйны: паэмы «Курган», «Бандароўна», «Магіла льва», «Яна і я», п'еса «Паўлінка», каля пяцідзесяці вершаў, сярод якіх «Мая малітва», «Нашай ніве», «Перад будучыняй», «Паязджане»... Перачытваеш, і ўражвае арганічная паяднанасць Купалавай творчасці з фальклорнай стыхіяй, уражвае, якую вялікую паэтычную сілу можа мець шчырая, глыбокая думка. Многія ўсхваляваныя творы, здаецца, наўпрост тычацца нашага часу і напісаныя так, нібы Янка Купала ніколі не пакідаў свой народ.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# ЭПОХА ПРАЗ АДНО ІМЯ

## Рыхтуецца энцыклапедыя, прысвечаная класіку

**У выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» ў найбліжэйшы час выйдзе адразу некалькі новых выданняў, прысвечаных класіку беларускай літаратуры Янку Купалу. Сярод іх самым каштоўным будзе энцыклапедыя «Янка Купала». Папярэдняе такое выданне выдалі 30 год назад, таму новая энцыклапедыя — чаканая падзея.**

Энцыклапедыю «Янка Купала» складуць 3 тысячы артыкулаў, над якімі ўжо вядзецца праца: выданне кнігі тыражом у паўтары тысячы экзэмпляраў запланавана на восень.

— Пастараемся зрабіць новую энцыклапедыю больш прывабнай, змесцім шмат ілюстрацый. Класічны жанр энцыклапедыі не сыходзіць, аднак мы ўлічваем тэндэнцыі часу, — патлумачыла галоўны рэдактар выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» Ларыса Языковіч.

Адметнасць новай энцыклапедыі — у даступнай і зразумелай мове, якая зацікавіць маладое пакаленне. Кніга будзе адрасавана шырокаму колу чытачоў, а не толькі спецыялістам.

— Погляды аўтараў аналітычных артыкулаў змяніліся з савецкіх часоў. База ведаў пра нашага класіка пашырылася дзякуючы архіўным дакументам, і яны будуць выкарыстаны аўтарамі новай энцыклапедыі, прысвечанай Янку Купалу. Праўда, застануцца некаторыя артыкулы і з папярэдняга, савецкага выдання, бо гэта ўжо класіка. Будуць пашырацца матэрыялы ў змястоўным плане. Напрыклад, цікава параўнаць Купалу на сцэнах беларускіх тэатраў, пастаноўкі савецкіх часоў і сучасныя. Тое ж тычыцца вобраза Купалы ў жывапісе: сёння жывапісная палітра нашмат шырэйшая, чым раней, больш выразная. Змяніліся тэхніка, падыход, бачанне тэмы. У энцыклапедыі не павінна быць палемікі, але без яе не атрымаецца, бо кожны аўтар мае сваё бачанне тэмы. Некаторыя недагаворанасці папярэдняй энцыклапедыі мы ўсё ж пераадолеем, каб наблізіцца да разгадкі таямніц Янкі Купалы. Новая энцыклапедыя аб'яднае некалькі пакаленняў даследчыкаў Купалы. Энцыклапедыя — гэта кніга эпохі, вялікай эпохі. Адна эпоха адышла, але іншая надыходзіць, а разам з ёй з'яўляюцца новыя даследчыкі творчасці Купалы, новыя чытачы. Цікавасць да нашага класіка, безумоўна, была і будзе, але трэба ўлічваць, што цяпер уступае ў жыццё пакаленне з веданнем інфармацыйных тэхналогій, з іншымі поглядамі, — падзялілася думкамі Сяргей Моўчан, вядучы навуковы рэдактар рэдакцыі літаратуры, мастацтва і культуралогіі выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі».

### ЧЫТАЕМ З ДЗЕЦЬМІ

Выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» паклапацілася і пра маленькіх чытачоў, якія ўжо могуць пазнаёміцца з вядомым класікам беларускай літаратуры. У серыі «Кнігі нашага дзяцінства» перавыдалі зборнік вершаў




Янкі Купалы 1957 года, захаваўшы стыль і малюнкі мастака Валянціна Волкава. Арыгінал захоўваецца ў фондах музея.

Папоўніць дзіцячую кніжную скарбонку і серыя «Беларускай дзіцячай энцыклапедыі». У сярэдзіне ліпеня пабачыць свет кніга, прысвечаная Янку Купалу. А ў верасні выдадуць такую ж энцыклапедыю і пра другога класіка айчыннай літаратуры — Якуба Коласа.

**Марына ЯЎСЕЙЧЫК**

# МАЛАДОСЦЬ — НА СТАРЦЕ
## і фінішуе першай




**Выдатную** разнажанравую падборку твораў маладых аўтараў прэзентавала чэрвеньская «Маладосць». Гэта той самы выпадак, калі кожны з аўтараў мае пэўную тэматычную скіраванасць, зону зацікаўленасцяў і як вынік — асаблівы почырк.

Так, пачнём з паэтычнага дэбюту гэтага месяца. Марына Дубень — 22-гадовая настаўніца, выпускніца філфака БДУ. Філфак заўжды накладае адбітак на маладзёна, які бярэцца пісаць мастацкія тэксты. Часам гэты адбітак можа мець неадназначную ацэнку: альбо гэта залішняе перайманне стылю вядомага творцы; альбо сентыментальнасць, народжаная шчырай, але праз тое не менш інфантыльнай захопленасцю нашай роднай-мілагучнай; гэтаксама пачатковец часта трапляе ў пастку літаратуршчыны. А як інакш? Начытаўшыся такіх аб'ёмаў класікі і не толькі, трэба ж недзе скарыстаць гэтыя веды... І пачынаюцца цытаванні, спасылкі і алюзіі, за якімі не бачна галоўнага — самога паэта.

Усё гэта пералічвалася дзеля эфекту «ад зваротнага»: Марына Дубень шчасліва пазбегла філфакаўскіх хваробаў. Аднак у яе ёсць іншае захапленне, якое ўплывае на манеру напісання: гэта рок. Можна згадаць Міхала Бараноўскага, які напрыканцы таго года выдаў зборнік *«Volume.1»*, ужо азначаны не абы-якой прэміяй. Паэзія Міхала таксама мае рокавае гучанне, аднак, у адрозненне ад дэбютанткі Марыны Дубень, Міхал Бараноўскі «рокавы» па змесце: грамадзянская тэма сама міжволі нараджае гэтую надрыўную, драматычную інтанацыю.

> *Філфак заўжды накладае адбітак на маладзёна, які бярэцца пісаць мастацкія тэксты. Часам гэты адбітак можа мець неадназначную ацэнку: альбо гэта залішняе перайманне стылю вядомага творцы; альбо сентыментальнасць, народжаная шчырай, але праз тое не менш інфантыльнай захопленасцю нашай роднай-мілагучнай...*

У маладосцеўскай паэткі-дэбютанткі пакуль што прыналежнасць да песенна-рокавай культуры выяўляецца фармальна, то бок у выразнай, бойкай рытмізаванасці радка, напеўнасці не ў сэнсе лірычнасці інтанацый, але ў сэнсе лёгкасці, з якой з верша можна зрабіць песню. Насамрэч, нават не чытаўшы кароткую біяграфічную даведку спадарыні Марыны, можна зразумець, адчуць гэтае яе захапленне. Цікава, што тая самая даведка адпачатку пазначае: паэтка пра каханне не піша. Ёсць у гэтым, вядома ж, поза, жаданне аўтара, маладога і, тут трэба падкрэсліць, — дзяўчыны, нейк вылучыцца, ад пачатку сказаць, чым жа яна адрозніваецца ад дзясяткаў іншых. Ці ёсць у гэтай «рысе тэматычнай аседласці» рацыя?.. І так, і не. Наўпраставыя вершаў-споведзяў, якія мы так часта бачым у «Маладосці», Марына Дубень не прэзентуе. Аднак лірычных інтанацый, пяшчоты яна не пазбегла. Мне, прынамсі, бачыцца ў гэтым плюс. Застаецца дадаць, што жаданне быць непадобнай дае плён, і сапраўды хацелася б пабачыць надалей новыя творы Марыны Дубень.

Упершыню ў «Маладосці» друкуецца проза Аляксея Карпекі, але не ўпершыню з'яўляюцца яго творы ў друку. Імя яго мусіць быць вядомым чытачам, якія сочаць за поспехамі Школы маладога літаратара, прынамсі, за выніковымі зборнікамі школы. Разгляд апавяданняў Аляксея Карпекі гэтаксама друкаваўся на старонках «ЛіМа».

Мінулым разам, напрыклад, адзначалася імкненне аўтара быць лаканічным, добрая скупасць стылю. Таксама было заўважна, што, жадаючы перадаць пачуцці свае ці героя, апавядальнік часам усё ж зрываецца то на шматслоўнасць, то на сентыментальнасць, у якой насамрэч нічога заганнага няма, аднак яна дысануе са стылем аповеду менавіта ў Карпекі. Маладосцеўская публікацыя прыкметна розніцца ад той прозы. Тут увогуле няма героя. Дый гэта не апавяданні: нешта сярэдняе між эсэ і замалёўкай з натуры, у цэнтры карціны — горад, Мінск. Вось тут здольнасць тонка адчуваць, прыхаваная за той самай стылістычнай скупасцю, прыдалася вельмі дарэчы. Аўтар сапраўды спазнаў гэты горад. Ён ведае яго, ведае парадны бок Мінска і яго здзічэлыя завулкі завадскіх раёнаў. Атрымаўшы права судзіць горад, празаік адмаўляецца ад гэтага самага права. Пабачыўшы непрыглядны яго бок, Аляксей Карпека палюбіў гэты горад. «Мора Мінска» і «Мінскае Маконда» — цудоўныя ўзоры сучаснай кароткай прозы. Пара дзясяткаў такіх тэкстаў могуць скласці добрую кнігу. Тым больш што Аляксей займаецца яшчэ і фота. Ягоныя небанальныя работы разам з такімі ж тэкстамі дадуць неблагі вынік.

Алесь Емяльянаў-Шыловіч апошнім часам гучыць у літаратурных колах як перакладчык. Сыграўшы на гэтым вобразе, паэт назваў сваю маладосцеўскую падборку вершаў «Мой пераклад». І гэтым разам ён перакладае з мовы інтымных перажыванняў на мову знакаў, сімвалаў, намёкаў. Вершы Алеся пазнавальныя. Як паэт ён, лічы, сцвердзіўся. Аднак мне, па самых суб'ектыўных адчуваннях, усё ж не хапае разняволенасці. Не пакідае ўражанне, што вершы гэтага аўтара — яшчэ не дзіця волі і натхнення, але толькі інструмент дасягнуць жаданае свабоды. Гэтая паэзія хоча быць смелай і шчырай да поўнай агаленасці пачуцця, але атрымліваецца неяк сарамліва. Ты не да канца вер
ыш словам паэта. Зрэшты, усё гэта — толькі ўражанне аднаго чытача.

І вось тэма, нечаканая ў гэтым нумары, у такім зборы твораў: жыццё ветэрана Вялікай Айчыннай вайны, праблемы супастаўлення вядомай карцінкі гэтага жыцця і зусім іншай рэальнасці. Недастаткова глыбокае ўспрыняцце таго, што завецца сёння Вялікай Перамогай; самота, непатрэбнасць — усё гэта ёсць у апавяданні «Ветэран» Андрэя Сідарэйкі. Моцны момант аповеду — дурны жарт двух маладзёнаў, якія ўваліліся ў хату ветэрана і абудзілі яго крыкам «немцы ў хаце!». П'яныя дуркаватыя гіцалі, якія прыходзяць у дом старога ж суседа і патрабуюць грошай ці гарэлкі, — узнікаюць асацыяцыі?.. Мне адразу ж згадаліся падобныя карціны з ваеннай прозы, дзе размова ідзе пра паліцаяў. У адрозненне ад правільнай савецкай прозы на гэтую тэму, сучасны малады аўтар не навешвае ярлыкоў з адназначным знакам «мінус». Асобна разгортваюцца гісторыі гэтых маладых людзей, ёсць спроба не апраўдаць, але зразумець іх. Чаму так сталася?.. Бо насамрэч імі кіруе не злосць, не прага пажывіцца, а нейкая дурная весялосць, адчуванне маладой сілы й беспакаранасці.

Як адлюстраванне гэтай сцэны — блізкі да развязкі момант з помстаю ветэрана: звязаўшы паснулых разбойнікаў, стары наводзіць на іх стрэльбу са словамі «хэндэ хох, рускія ў хаце!».

Гэтыя два люстраныя моманты робяць аповед асаблівым у плыні такіх квазіваенных аповедаў, напісаных маладзёнамі, якія той вайны ў вочы не бачылі. І — дзякаваць Богу.

Пра жыццяздольнасць паэмы як жанру чарговы раз заяўляе Глеб Ганчароў. Яго паэмы не перастаюць здзіўляць сваёю жывасцю: так, у век кароткай прозы і вольнага верша Ганчароў працягвае пісаць паэмы, якія не выглядаюць рэліктавымі. Яны сапраўды чытэльныя. Найперш — дзякуючы разняволенасці аўтара ў гэтым жанры, адэкватнай змене памеру верша, які прывязаны зазвычай да настрою героя твора, да зменаў абставінаў, у якіх героі знаходзяцца. Гэтым разам Глеб Ганчароў звяртаецца да трагічнай гісторыі кахання Лесі Украінкі. Украінская паэтка выступае цэнтральным персанажам паэмы, шматлікія раздзелы якой — маналогі самой гераіні. Ці ўдалося аўтару паставіць сябе на месца палкай, таленавітай, гераічнай паэткі? Мяркую, што так.

І сваю казачную справу працягвае Маргарыта Латышкевіч. «Над Вугерай — дождж» — празаічны твор, звязаны з «Вершнікамі на дарозе», якія, калі вы іх чыталі, мусілі запомніць. Фантастычны свет, які стварае спадарыня Маргарыта, — спрэс беларускі, але выяўляецца гэта не ў плакатных выказваннях пра нацыю. Беларусь жыве ў імёнах, пейзажах, музыцы сказа, слоўцах герояў. Гэтак і мусіць быць у ідэале, як бачыцца мне.

Што да **сумніўных** публікацый ці твораў **на суд чытача**, гэтым разам датычна «Маладосці» мы іх прамінём.

***

**Выдатнай** публікацыяй часопіса «Полымя» за чэрвень адназначна назавём даследаванне Васіля Шура «Рэгіянальнае і нацыянальнае ў анамастыконе жыхароў Мазыршчыны». Гэта толькі назва гучыць застрашліва. Насамрэч, даследаванне чытаецца на раз. Вы сустрэнеце шмат знаёмых прозвішчаў з іх дэшыфроўкай ды паходжаннем. Гісторыя краіны разгортваецца праз гісторыі асобных фамілій (г. зн. сем'яў). І няважна, хто ты, Радзівіл ці Стасенка, — гісторыя абодвух родаў аднолькава старажытная.




А вось **сумніўным** падаецца на гэты раз мастацкі складнік нумара. Незразумелая адраснасць урыўка з паэмы Івана Карэнды, змяшаная працякаватасць у жыццёвінках Васіля Ткачова, банальныя вершы Таццяны Цвірка… Так, ніхто ў шчырасці аўтараў не сумняецца. Аднак шчырасць — гэта адно, а мастацтва, літаратура — зусім, зусім іншае. Не ведаю, ці зразумеюць гэта калі-небудзь нашыя аўтары, але веры не губляю.

Неадназначна ўспрымаюцца (таму й выносяцца **на суд чытача**) вершы Мар'яна Дуксы і апавяданне Ніны Рыбік. У першым выпадку пытанні выклікае змест твораў. У другім — зноў жа, адсутнасць новага погляду на стасункі чалавека з лёсам. Наконт прадвызначанасці і чалавечага выбару напісана багата. А новага нічога не сказана.

***

**Выдатнай** публікацыяй завяршыла цыкл пра знакавых пісьменніц Зінаіда Краснеўская. Шэраг тэкстаў пад назвай "Пантэон жаночых сэрцаў" друкаваўся ў «Нёмане» цягам года. Апошні тэкст прысвечаны малавядомай Барбары




Пім. І вось што цудоўна: разглядаючы творчасць і жыццё аднае аўтаркі, Краснеўская адначасна ўздымае пытанні, якія не маюць межаў у часе ці геаграфіі. Гэтым разам — што ўвогуле з'яўляецца чыннікам знакавасці пісьменніка? Каго і чаму мы ставім на такога кшталту п'едэстал? Пытанні, вядома, застаюцца адкрытымі. Але гэта не прычына не задаваць іх надалей.

**Сумніўнымі** выглядаюць вершы пра каханне ў вуснах не самых маладых вершаскладальнікаў. Гэтым разам у іх шэрагі сталі Мікола Шабовіч і Валер Максімовіч. Зразумейце правільна: вядома, не існуе абмежаванняў у тэмах для нейкіх узростаў. Любові скараюцца ўсе і г.д. Справа не ў тым, пра што. Справа ў тым, як. Яны наўрад ці дадаюць красы нашай літаратуры ў сэнсе формы, вобраза, адкрыцця.

**На суд чытача** пакінем апавяданне Станіслава Падліпскага «Як стаць вялікім мастаком». У ім — здаровая іронія, задзірлівасць юнака, але не стае яшчэ стылістычнай вытрымнасці, што выдае пачаткоўскую няўпэўненасць і сумневы ў сабе. Чаго тут болей — няхай вырашаць чытачы «Нёмана».

**Наста ГРЫШЧУК**

# І СТРАЛА, І ГАСЦІНЕЦ...

Кніга «Выбранае» Сяргея Панізніка выйшла да 75-гадовага юбілею паэта. Яна ў значнай ступені падсумоўвае плённы творчы шлях аўтара. Невыпадкова ў падзагалоўку ёсць падказка на храналогію: «…Паэзія за паўстагоддзя творчай працы».

Укладанне і прадмова належаць Аксені Тарасевіч. Вось што, у прыватнасці, піша ўкладальніца ва ўступным слове: «… Гэта, бадай, адна з самых шчырых кніг Сяргея Панізьніка. Кожны раздзел пачынаецца маленькім уступам, у якім аўтар кажа пра тое, што натхняла яго ў часе працы, а што вярэдзіла душу. Далей, на адгорце шмуцтытула, да размовы далучаюцца крытыкі: спавіўшы словы аўтара тостамі-водгукамі, яны пакідаюць чытача сам-насам з паэзіяй, “настоенай” на каранях ветласці і сяброўства, з вершамі, якія вытрымалі выпрабаванне часам і могуць лічыцца хрэстаматыйнымі». І далей: «Скразная тэма зборніка — родны Край. Здавалася б, пра Беларусь у нашай літаратуры напісана столькі, што проста немагчыма не паўтарыць класікаў, не выкарыстаць звыклыя тропы і асацыяцыі. Аднак аўтар бліскуча пераасэнсоўвае здабыткі і надае звычайным з’явам новае гучанне, новую шчырасць, новую глыбіню. Нягледзячы на немалую колькасць каларытных прыдзвінскіх слоўцаў і аўтарскіх наватвораў, думка выказваецца проста і нязмушана — і гэта вельмі важна для сённяшняга чытача, стомленага штодзённымі бязмежнымі плынямі інфармацыі…»

Чытаеш вершы Сяргея Панізніка з розных гадоў — і быццам нектар п’еш. Такая асалода ад знаёмства з яго вершаванымі росшукамі, з яго мастацкімі і жыццёвымі адкрыццямі.

*Бераг мудрай, таемнай зямлі,*
*ад якой ідуць караблі,*
*ад якога па рэках, лясах*
*пралягла і мая паласа —*
*як страла, як гасцінец… Абшар:*
*без мяжы — толькі плынь, толькі рух…*
*Урастаецца сонечны круг*
*у зямны, пераспелены шар.*
*А на ім і азёры — раса.*
*Любы бераг — дарог даўгунец:*
*тут мяне затрымае лаза,*
*роднай хаты самлісты вянец.*
*Я ад гэтага краю — углыб*
*па планеце-планідзе іду.*
*У жыцці прызнаю правату*
*і касую глухія вуглы.*
*І становіцца бераг зямлі*
*маяком і развілкай шляхоў.*
*Праплываюць гады-караблі*
*на сузор’і шчаслівых вякоў.*

Гэты верш — з першай кнігі Сяргея Панізніка «Кастры Купалля» (1967 год). Вось што пісаў Вячаслаў Рагойша пра першы зборнік маладога творцы: «“Кастры Купалля” — кніга ваяўнічая ў лепшым сэнсе гэтага слова. Яна ваюе з грамадзянскай інфантыльнасцю, з нацыянальным нігілізмам, сцвярджае ў чалавеку гістарычнае і нацыянальнае “я”… Паэт імкнецца ажывіць у нашай памяці ўчарашні дзень, каб яшчэ ярчэйшы, больш радасны быў дзень сённяшні і дзень заўтрашні…» З першага зборніка вершаў Сяргей Панізнік запачаткаваў галоўныя кірункі сваёй творчай біяграфіі. Яны звязаны са спасціжэннем лёсавызначальных для нашай Беларусі прырытэтаў…

Вось што расказвае сам Сяргей Панізнік пра другую сваю кнігу — «Палявая пошта» (1972): «“Палявую пошту” я пачаў збіраць яшчэ ва Уруччы — “сталіцы” славутай калісьці 120-й гвардзейскай дывізіі. Верш “...Мой адрас: пошта палявая...” з’явіўся ў чэшскім гарадку Мілавіца над Лабай, дзе служыў з 1969 года. Ён быў “сталіцай” штаба Цэнтральнай групы войск. І зноў дненне і начаванне ў рэдакцыі дывізійнай газеты... Але ж рэха — чуйнае! Выслухоўвае мае крокі ў Юрмале, у Нясвіжы, у Горадні... І “на шляху Адысея” ў 1970-х гадах пры напружаных чаканнях зноў і зноў аказвалася перада мною “несмяротная маці мая — Беларусь!”».

У другой кнізе — і верш з прысвячэннем Рыгору Барадуліну, таксама — і верш, які стаў песняй кампазітара Міколы Пятрэнкі «Нарачанка». У кнізе — і верш з прысвячэннем Уладзіміру Караткевічу. А яшчэ — твор «Сяргею Палуяну», які адкрываецца эпіграфам з Максіма Багдановіча. Вось тыя арыенціры, тыя вежы, што вымалёўвалі яго, Сяргея Панізніка, творчы шлях... У «Палявой пошце» — і адрасаваны Хатыні верш... Міне час — і Сяргей Панізнік пройдзе шляхамі вязняў, жыхароў спаленых вёсак з Верхнядзвіншчыны, Асвейшчыны, Віцебшчыны, напіша празаічныя, публіцыстычныя кнігі пра драматызм, трагедыйнасць Другой сусветнай, Вялікай Айчыннай...

Трэцяя кніга вершаў С. Панізніка — «Крона надзеі» — выйшла ў 1975 годзе. Няпросты для паэта час... «Газетчыка абвінавацілі ў тым, што ён згубіў “класавую пільнасць”. Сустракаўся ж афіцэр з Ларысай Геніюш, Забэйдам-Суміцкім... І дзе цяпер знайсці паэту сваю крону надзеі? З Карлавым мостам я развітаўся ў 1973 годзе, каб спраўдзіць пад цеплынёй незабытых песень бабулькі Альжбеты свае новыя творы...» Але таленавіты, выразна нацыянальны мастак слова знайшоў сваю крону надзеі. І надалей працягваў спраўджвацца. Як Паэт. Як тонкі лірык. Як высокага голасу грамадзянскі творца...

У кнізе выбранай паэзіі С. Панізніка — яшчэ і творы з яго зборнікаў «Чало і век» (1979), «Слова на дабрыдзень» (1982), «Мацярык» (1984), «Стырно» (1989), «А пісар земскі» (1994), «Пры сьвячэньні» (2004), «Нас — многа» (2012)... Па кнігах Сяргея Панізніка можна вывучаць біяграфію нашай Айчыны. У вершах — асобы і мясціны, лёсы тых нашых прашчураў і сучаснікаў, якія могуць быць прыкладамі шчырага служэння Радзіме, якія сваімі жыццямі вылучаюць духоўнасць, маральнасць, узвышаюць чытача.




*Панізнік, С. С. Выбранае: Паэзія за паўстагоддзя творчай працы / уклад. і прадм. Аксені Тарасевіч. — Мінск: Тэхналогія, 2017. — 215 с.*

Даволі часта мы неяк стрымана выказваемся адносна нацыянальных прыярытэтаў паэтычнага слова ў звязку з эстэтычным зместам мастацкага твора. І дарэмна. Суладнасць сімвалаў нацыянальнай годнасці і высокага майстэрства ўзвышае вершаваны радок, робіць яго публіцыстычнасць грамадзянскім складнікам паэзіі. І, вядома, выклікае самыя светлыя пачуцці і ўяўленні патрыятычнай скіраванасці. І паэзія Сяргея Панізніка якраз праз усе яго гады ідзе ў дадзеным творчым рэчышчы.

**Мікола БЕРЛЕЖ**

# Прымаўкі ды прыказкі — на кітайскай мове

Як пазнаёміць жыхароў далёкай усходняй краіны з беларускім светапоглядам? Адзін з варыянтаў — звярнуцца да скарбаў вуснай народнай творчасці. Сто беларускіх парэмій у перакладзе на кітайскую мову з ілюстрацыямі сучасных беларускіх мастакоў патрапілі ў анталогію «Прымаўкі ды прыказкі — мудрай мовы прывязкі», якая пабачыла свет у выдавецтве «Беларуская навука». Выданне багатае на яркія, цікавыя ілюстрацыі, чым прывабіць і айчыннага чытача.

Кніга «Прымаўкі ды прыказкі — мудрай мовы прывязкі» стала вынікам сумеснай творчай працы Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі і Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Прэзентацыя выдання адбылася ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі.

Ідэя выдання з’явілася падчас першага навуковага форуму вучоных-гуманітарыяў Беларусі і Кітая, які адбыўся ў 2015 годзе ў Шанхаі і Пекіне. Пераклад парэмій на кітайскую мову звязаны з фарміраваннем новага культурнага вектара, які мае ўмоўную назву «Шаўковы шлях».

«Прымаўкі ды прыказкі — мудрай мовы прывязкі» — першая кніга для замежнікаў, якая ў нагляднай форме дае ўяўленне пра вызначальныя рысы беларускага характару, даступна тлумачыць вобразнасць і агульную скіраванасць фальклорных адзінак праз візуальны шэраг.

Кожная парэмія інтэрпрэтуецца тройчы — праз погляд беларускіх фалькларыстаў, якія раскрываюць змест выказвання, праз погляд перакладчыка, які тлумачыць рэаліі беларускага жыцця і светаўспрымання, праз погляд мастака, які стварае паводле тэксту разгорнуты сюжэтны малюнак. Для лепшага разумення сэнсу парэмій прадстаўнікамі іншых культур шырока прадстаўлена візуалізацыя вобраза. Гэта дае ўяўленне пра багацце не толькі беларускага фальклору, але і наглядных вобразаў яго ўвасаблення. Над кнігай працавала каля дзесяці мастакоў, і менавіта выдатнае мастацкае афармленне робіць анталогію ўнікальнай.

Ініцыятарам праекта выступіў дырэктар Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі Аляксандр Лакотка. Прапанова далучыцца да працы адразу знайшла водгук у супрацоўнікаў Акадэміі мастацтваў. Разам з выкладчыкамі паводле сталай еўрапейскай традыцыі над кнігай працавалі і студэнты.




Падчас прэзентацыі навукоўцы з падзякай узгадалі сваіх папярэднікаў — этнолагаў і фалькларыстаў:

— Сучасныя даследчыкі стаяць на плячах тых, хто амаль 90 гадоў збіраў нашу нацыянальную спадчыну. У музеі Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры налічваецца 400 тысяч кінафоназапісаў! Гэта вялікі скарб, які трэба зберагчы і данесці да будучых пакаленняў, — адзначыў акадэмік-сакратар аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі, член-карэспандэнт Аляксандр Каваленя.

Нагода для рэалізацыі праекта — пашырэнне эканамічных, палітычных і культурных стасункаў Беларусі і Кітая. Але айчынныя кнігавыдаўцы трымаюць у полі зроку і іншых партнёраў. Анталогія запачаткавала ўнікальную кніжную серыю: наступныя тамы пазнаёмяць замежных чытачоў з загадкамі, дзіцячым фальклорам, народнымі песнямі і легендамі. Кожны тэкст будзе перакладзены на кітайскую і англійскую мовы, а побач з беларускімі творамі ў якасці прыкладу будуць змешчаны творы на іншых нацыянальных мовах.

Аб працы над выданнем расказалі рэктар БДАМ Міхаіл Баразна, галоўны рэдактар выдавецкага дома «Беларуская навука» Георгій Кісялёў, мастакі, загадчыкі кафедр БДАМ Юрый Хілько і Усевалад Свентахоўскі.

Яшчэ адна новая кніга, якая спрыяе пашырэнню беларуска-кітайскага супрацоўніцтва, — манаграфія Аляксандра Лакоткі «Архітэктура нацыянальная і архітэктура фрактальная». Павіншаваў калегу з новым выданнем доктар архітэктуры, прафесар, дэкан архітэктурнага факультэта Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта Армен Сардараў:

— Гэта даследаванне, безумоўна, актуальнае, бо для нашай моладзі вельмі важнае пытанне: павінна архітэктура быць нацыянальнай ці не? Раней мы мелі ідэалагічны ціск на культуру, а цяпер культура спазнае ціск камерцыйны. Пад уплывам рыначнай эканомікі мы страчваем набытае раней. Культура і зараз у небяспецы, і тое, што шаноўны вучоны звярнуўся да гэтай тэмы, вельмі важна. Мы карыстаемся яго кнігамі, калі вывучаем архітэктуру, архітэктуру сапраўдную, якую стваралі нашы продкі цягам стагоддзяў, і разважаем: што павінна быць сёння? Архітэктура нацыянальная альбо інтэрнацыянальная? Фрактальная, гарманічная альбо, наадварот, парушальная? Вельмі важна ўздымаць гэта пытанне, каб мы знайшлі свой шлях. Прыклад кітайцаў у гэтым сэнсе цікавы: нават калі яны мянялі свой уклад, адмаўляліся ад нейкіх якасцей, заўсёды абгрунтоўвалі гэта нацыянальнай філасофіяй. Нацыянальная філасофія ёсць і ў беларусаў. Гэта стаўленне да іншых культур, гэта ўнутраная памяркоўнасць — калі мы разумеем культуру і заходнюю, і ўсходнюю, асэнсоўваем іх і судносім.

Архітэктура сучаснага Кітая — гэта працэс эксперымента — унікальныя інавацыйныя будынкі, якія патрабуюць сучаснага ўспрымання прасторы, ствараюць кантраст паміж вобразамі гістарычнага і ультрасучаснага горада. Архітэктура Беларусі грунтуецца на ідэі гарманічнага развіцця навакольнага асяроддзя. Найноўшыя матэрыялы, тэхналогіі, інавацыі — інструменты беларускіх архітэктараў, будаўнікоў, інжынераў. У культуры беларусаў і кітайцаў, у найноўшай гісторыі абедзвюх краін ёсць пэўныя падабенствы, і ўзаемнае знаёмства, паралельнае вывучэнне абедзвюх культур абяцае быць цікавым і прадуктыўным.

**Юлія ШПАКОВА**



Сафія ДЗЕНІСЮК

## Дарога дадому

*Яшчэ на пероне сустрэчы сяброў:*
*Збіраецца люд у дарогу.*
*І я ў прадчуванні радзімы вятроў*
*З душы праганяю трывогу.*

*І вось я ў вагоне сяджу ля акна,*
*Навокал гляджу ў захапленні,*
*І радуюць сэрца зямлі цішыня*
*І мілых усмешак імгненні.*

*Ад Мінска да Брэста — чатырыста*
*вёрст,*
*Імчыцца цягнік мой заўзята,*
*За мною спяшаюцца купкі бяроз,*
*Сады запрашаюць у хату.*

*І грэюць душу мне прасторы палёў,*
*Як чую гамонку Палесся,*
*І едуць са мною студэнты дамоў,*
*І ладзяць сябры свае песні.*

*А ў вокнах мільгаюць, як кадры кіно,*
*Агні гарадоў і паўстанкаў,*
*Мяне, як страчае матуля сыноў,*
*Іванава стрэне на ранку.*

*Я зноўку вязу да зямлі дарагой*
*Каханне сваё і сумленне*
*І зноў сваё сэрца кладу перад ёй,*
*Чакаю яе блаславення.*

*Ад Мінска да Брэста — чатырыста*
*вёрст,*
*Цягнік мой бяжыць зухавата,*
*І хочацца сэрцу ўзляцець да нябёс —*
*Радзіма зноў кліча у хату.*

## Родныя мясціны

*Нібы ў вяночку наша вёска:*
*Вакол палі, лугі, лясы,*
*Там беластволыя бярозкі*
*Разносяць птушак галасы.*

*Ў лугах такое разнатраўе,*
*Ўсіх колераў і не злічыць,*
*Навокал лецейка іграе*
*І шчырай песняю гучыць.*

*Да першых хат вядзе дарога,*
*На кожнай браме новы ўзор.*
*І вось, забыўшы пра знямогу,*
*Заходжу я ў свой родны двор.*

## Прызнанне

*Я не хачу цяпер чужой спагады,*
*Як толькі ты вярнуўся да мяне.*
*Табою я любуюся і ў сне,*
*Табе, мой любы, кожны кут мой рады.*

*Ты мой анёл, ты мой заступнік горды,*
*Ты той, каму паверыць я змагла.*
*Я прытулюся да твайго крыла*
*І так бы засталася назаўсёды.*

*Я думала, ты ўжо забыў дарогу,*
*Так доўга ты вагаўся прыязджаць.*
*Я ўсё табе дарую і знямогу*
*Майго чакання кіну ўспамінаць.*

*Чужой спагады мне цяпер не трэба,*
*Ўсё горкае хай сыдзе ў небыццё,*
*Ты мой палон, мой крыж, маё жыццё,*
*Ты — даражэйшы за святло самога неба.*

## Самавар

*Завару духмяны гарбаты*
*Ад зёлак лясных ды квецені ліпы.*
*Заварожана, ладна, упарта*
*Забулькоча з вадзіцы калодзежнай кіпень.*

*Заварнік заскача над парай*
*З саспелых леташніх шышак.*
*Загудзе самавар меднатвары,*
*Забялее стужачка ў вышы.*

*Гаворка душэўная пойдзе ў зачыне*
*З кубачкам цёплым, квадрацікам цукру.*
*Ўчарашняя горыч у попеле згіне,*
*Сабака суседскі не рыкне, не буркне.*

*Прысяду ў альтанцы, і стане так*
*проста:*
*Ў жыцці каб вандроўніцы наталіцца,*
*Ўдыхнуць дастаткова родны водар*
*дзівосны*
*Ды выпіць глыточак жывільнай*
*вадзіцы…*

## Капыль

*Легенда засведчыць, Як Коля і Поля*
*Памкненні зласліўцаў раструшчылі ў пыл.*
*На ўзгорках пяцёх, а не сярод поля*
*Ўзнікаў, уздымаўся магутны Капыль.*

*Тут шчыравалі у веку жалезным*
*Рупныя балты: сяленне відно!*
*Ды праз стагоддзі водная бездань*
*Злучыла імёны каханых ў адно.*

*У княствах Алелькавічаў ды Радзівілаў*
*Ўладарыў надзіва увішны кравец.*
*Ён меў у запасе процьму капылаў —*
*Абутак шыў князю і бедны ўдаве.*

*Адвечнае песні узновіць матывы*
*У залатым полі чарнюткі рог.*
*Горад Капыль — надзіва пачціvы*
*Да ўсіх, хто духоўныя скарбы збярог,*

*Хто ў век дваццаць першы захоплены*
*ткацтвам,*



Ірына ТУЛУПАВА

*Вітае адноўлены паясы*
*Рад стужкай з валошкаю падпеpазаца —*
*І годна, як продкі, на святы насіць.*

*Сябруюць ў супрацы, пачэсна мяжуюць*
*Слуцк і Нясвіж здавён з Капылём.*
*Гісторыю новую пішуць, жывую,*
*Якую*
*Час прыцярушыць духмяным быллём.*

## Школа Гары Потэра

*Гляджу з інтарэсам употай*
*Шматсерыйны мастацкі фільм,*
*Дзе студэнт-чараўнік Гары Потэр*
*На мятле суперхуткай лётаў —*
*Вандроўнік заўзяты і пілігрым!*

*Штораз ратаваў ён ад бедаў школу,*
*Дзе навучылі майстэрству і ведам!*
*Нават магічны праклён адолеў*
*(А падаваўся нясмелым і кволым!)*
*З дзяўчынкай старанней*
*і сябрам-суседам.*

*Моцны духам, упарты і горды,*
*Улюбёны ў жарты чараўніка,*
*Ён адчайна змагаўся з лордам*
*(Яго звалі Валан-дэ-Мортам)*
*І убачыў дарогу ў іншы партал.*

*Шмат цёмнай магіі, дзіўных*
*мастацтваў*
*У арсенале чараўнікоў.*
*Ды толькі Потэр адкрытым застаўся,*
*Парадаў мудрых ён не цураўся,*
*Даведаўся шмат пра сваіх бацькоў.*

*Дый нашыя вучні вось гэтак заўзята,*
*Як гарыпотэраўскія пілігрымы,*
*Збіраюць сапраўдныя артэфакты*
*І б'юцца са злом за сваю альма-матар:*
*З любоўю і болем за боль Радзімы.*

## Успаміны пра Караткевіча

*Прыгадаю зіму, як завея хадзіла,*
*Заснуўшы на лесвічцы, бы пілігрым,*
*Калі кнігу да сэрца свайго прытуліла*
*«Каласы пад сярпом тваім»!*

*Як на школьным парозе чытала асобнік.*
*Не надта і спрытна, амаль па складах:*
*І смачнейшым за цукар з кандытарскай*
*здобы*
*Быў каласоў непадробны пах.*

*Пераклад я чытала па-руску*
*І дзяліла чытво сваё з светам усім.*
*Дзея і дзіва насыцілі густа*
*Радок за радком «под серпом твоим».*

*«Современный роман.*
*Короткевич Владимир»:*
*Неспадзеўкі, прыгоды, тузін таямніц!*
*У кантэксце жыцця паўставала*
*Радзіма.*
*Мясціны дашчэнту вядомыя, да драбніц!*

*…Помню лета. І сонца ў зеніце, у сіле,*
*Ды з кнігаю ранак над роснай зямлёй.*
*Зноў жыта багатае каласіла —*
*Чытаўся раман на аўтарскай мове,*
*Бруістай, дасціпнай, спеўнай, жывой.*

## Балкон

*Жанчына ў зашклёным балконе.*
*Па-за вокнамі — снежны макрэц.*
*…У сумётах ссівелых скроняў*
*Хавае пальчатку малы удалец.*

*Задужа ўпарты ў працы малеча!*
*Скрозь марозную шэрань бачыцца, як*
*Праз свой першы адбелены вечар*
*Коціць хлапчына снежны камяк.*

*У жменьцы схаваныя гузікі-кропкі,*
*Ў адвіслай кішэні — моркаўка-нос.*
*…Цярушыцца час над зямлёй нетаропка.*
*Другі снежны ком ён і трэці прынёс.*

*Галінкі зіме падарыла вярбіна,*
*Каб ажыў у двары малады снегавік…*
*На балконе прыцішана мроіць жанчына.*
*І цень непазбежнасці некуды знік.*

*Гадоў не сустрэць пазалеташніх далеч,*
*Калі паланэз пад балконам гучаў.*
*Скульптуру цяпер саграває той шалік,*
*Жанчыну якім кавалер сустракаў.*



Капыль.



Яўген ГУЧОК

## Зямля плюс неба

***

*Калі ты — колас збажыны,*
*То Бог — і корань, і сцябло,*
*І глеба.*

***

*У самым галоўным коле Сусвету*
*Душа —*
*Найважнейшая спіца.*

***

*Цэню не мае*
*Адно толькі*
*Сонца.*

***

*Зямля плюс неба —*
*Вось формула*
*Травы.*

***

*Дзяцінства — то босая пятка…*
*Як лёгка яе*
*Парэзаць.*

***

*І такое нярэдка бывае:*
*Каханне, што лівень нібыта,*
*Размывае дарогу да Творцы.*

***

*Ветрык дзьме — і кожны лісцік,*
*Кожны лісцік — бы улётка*
*Аб бясконцасці жыцця.*

***

*Святло нябеснае на зямлю апускалася*
*І на ствалах бяроз*
*Свой пакідала след.*

***

*Пад мостам*
*І вада*
*Без неба.*

**Конкурс «ПЕРШАЦВЕТ»**

# Свята Чаравікаў

*Апавяданне*



Кацярына ЗАХАРЭВІЧ

У дзяцінстве я не вельмі любіў апранаць бацькавы чаравікі. Гэтае свята — Дзень Абування Татавых Чаравікаў — ладзілася раз на год, у першы дзень вясны. Дзень нараджэння ў нашай хаце быў бледным ценем Дня Абування Татавых Чаравікаў.

Я мала што ўзгадваю з дзяцінства. У самы першы Дзень Абування Татавых Чаравікаў мне быў амаль год. Мама, стоячы на каленях, намагалася патрапіць маімі крывавалымі ножкамі ў вялізныя чорныя штукі. Больш прываблівалі мяне бліскучыя канцы шнуркоў, я цягнуўся да іх, выслізгваючы з рук, а мама мацней сціскала бакі (было нават балюча), пакуль не ўсунула-ткі ногі ў татаў абутак. Я расплакаўся: стаяць было нязручна і страшна, а гэтыя велізарныя штукі, як мне здавалася, маглі з'есці — праглынуць... не пакінуўшы нават гузіка ад штонікаў. Расплакалася і мама, аж выпусціла мяне — я зарыўся б носам у падлогу, калі б не выцягнуў рукі і не ўтрымаўся на карачках.

На наступны Дзень Абування Татавых Чаравікаў я ўжо ведаў, што рабіць: стаць у татаў абутак і дакладна запомніць, колькі вольнага месца ў ім засталося. Чым менш, тым лепш — тым хутчэй я стану сапраўдным дарослым мужчынам. Як мой тата. Я буду абараняць маму ад усяго кепскага, дапамагаць ёй. Я буду заўсёды побач!

Калі я паўтарыў за мамай гэтыя словы, яна прынесла вялікі прыгожы торт і пакункі з падарункамі — машынкай (тата быў кіроўцам), самалёцікам (марыў быць пілотам) ды іншай дробяззю. Я еў торт — з масляными ружовымі кветкамі і зялёнымі лісцікамі. Сабе мама адрэзала зусім маленькі кавалак, а мне — вялікі. Масляныя ружовыя кветачкі і цвёрдыя чорныя фінікі былі нясмачныя, але мама глядзела, як я ем, таму я павінен быў адужаць усё.

Тату я ніколі не бачыў. Іншыя дзеці чакалі Дзеда Мароза, Чароўную Фею ці Дзядзьку Міліцыянта, а я чакаў Тату. Я не ведаў, як ён выглядае, — не ведаў, што ён увогуле павінен неяк выглядаць. Нават дэталяў, кшталту доўгай барады, чароўных крыльцаў ці сапраўднага пісталета, мне не падказвалі. Тата — гэта машынка і самалёт: новыя, бліскучыя, з якімі страшна гуляць, бо сапсуеш, на якія можна толькі глядзець здалёк. Тата — гэта слова, якое мама вымаўляе з захапленнем і журбой. І вялікія чорныя чаравікі, у якія я павінен станавіцца штогод у першы дзень вясны.

Я памятаю, як даведаўся, што таты існуюць на самай справе. У дзіцячым садку камусьці з сяброў выхавацелька крыкнула: «Збірайся, па цябе тата прыехаў». Я кінуў усё, і мы пабеглі навыперадкі: я і хлопчык, да якога прыехаў тата. Чамусьці пабеглі толькі ўдвох, усе астатнія займаліся сваімі справамі. Але так лепш: я першым убачу тату! І ён забярэ мяне з сабой туды, дзе мноства самалёцікаў і машынак, з якімі можна гуляць, не шкадуючы, і дзе торцікі робяць маленькімі і не з масляным крэмам.

Калі да таты заставалася некалькі крокаў, я адчуў балючы штуршок у правы бок, а потым — востры ўдар у правую скроню: сустрэўся галавой з лавачкай, на якой мы звычайна апранаемся перад прагулкай. Устаў, пацiраючы пабітае месца. Хлопчык сядзеў на руках у таты.

— Гэта мой тата! Мой! Мой! Мой! — выкрыкнуў ён і паказаў мне язык.

Тата быў звычайным мужчынам, якіх дзясяткі ходзяць па горадзе. Ён сеў на кукішкі, паставіў хлопчыка на падлогу, паглядзеў на мяне і запытаўся:

— А дзе твой тата?

Я глядзеў на мужчыну, быццам ён запытаўся, куды падзелася мая другая галава. У мяне што, павінен быць свой тата? Толькі мой, уласны?

Спачатку я не паверыў. Мама не казала, што тата можа быць толькі мой. Ды і чаму я ніколі не бачыў яго? Я яшчэ раз агледзеў мужчыну-тату. Не, ён дакладна быў не той самы: замест чорных чаравікаў абуты ён быў у шэрыя красоўкі. Значыць, сапраўды дзесьці павінен быць мой тата.

— Мама, а дзе мой тата?

Бразь! — выслізнула з рук і разляцелася па падлозе аскепачкамі бела-блакітная талерка (апошняя з пары, падоранай калісьці татам). Мама павольна выцерла рукі, сабрала аскепкі, паспрабавала наноў скласці з іх талерку і толькі пасля трэцяй няўдалай спробы ўзяла мяне за рукі, вывела з кухні, усадзіла на канапу і сказала:

— Ты яшчэ маленькі ведаць пра гэта. Пакуль што пасядзі і падумай, з-за чаго я разбіла сваю любімую талерку, — і вярнулася на кухню.

Я не думаў пра талерку. Ва ўсім вінаваты я: гэта ўніверсальны адказ на ўсе «пасядзі і падумай, чаму…». А раз заданне выканаў, можна падумаць пра штосьці больш важнае.

Праўду я даведаўся пазней. Мне было трынаццаць, мае ногі павінны былі запоўніць татавы чаравікі амаль цалкам, і з усё большай смеласцю я абыходзіў маміны адгаворкі і забароны. У гэты дзень я вырашыў абавязкова даведацца праўду пра бацьку. Канечне, сапсаваць сам рытуал абування я не рызыкнуў і паслухмяна ўлез у чаравікі. Потым, як звычайна, урачыста паабяцаў, што, калі стану вялікім, як тата, буду дапамагаць маме і абараняць яе ад усіх няшчасцяў. Калі мама вынесла пакункі з падарункамі (я ведаў, што там — машынка і самалёцік, а на кухні мяне чакае торт з масляным крэмам), я не працягнуў рукі, каб забраць іх, а схаваў за спіну. Маўляў, ніякага свята, пакуль не скажаш. Я набраў паветра, яшчэ раз пракруціў у галаве прамову. І…

— Ты кажаш, што мой тата — самы лепшы. А я нават фотаздымкаў не бачыў. Я нічога не ведаю, акрамя машынак, самалёцікаў і чаравікаў.

Мама ўсадзіла мяне на канапу. Я чакаў, што яна зноў скажа «падумай, чаму», але яна доўга маўчала.

— Ты ўжо дарослы, хутка і чаравікі будуць якраз… Твой тата — сапраўдны герой.

— Што такога гераічнага ён зрабіў?

— Ён ахвяраваў сваім каханнем і сям'ёй дзеля адной місіі. Сёння — чатырнаццаць гадоў, як ён зрабіў гэта, — за колькі дзён да твайго нараджэння. Ён вымушаны быў пайсці ад нас — дзеля таго каб дапамагчы блізкаму чалавеку — назаўсёды. З тых часоў я не бачыла яго. Толькі чаравікі паспела пад канапу схаваць. Чаравікі і ўспаміны — усё, што мне засталося.

— Што за місія? Што за чалавек?

— Ён пакінуў нас, каб жыць са сваёй маці. Яна была супраць нашага шлюбу. І ён застаўся з ёй, каб не пакідаць адну.

— А ты? А я?

— А ў мяне павінен быў з'явіцца ты. Маці яго — адна, а мы з табой — разам. Назаўсёды, як і яны. Ты ж не пакінеш мяне ніколі? Ты ж будзеш героем, як твой тата?

У пакоі стала горача. Я адчыніў акно. Чорнымі птушкамі паляцелі па небе татавы чаравікі.

---



Яўген МАРТЫНОВІЧ

# ЭЛЕГІЯ, або ЛІСТ У МІНУЛАЕ

*Эсэ*

Усё знікла ў адно імгненне…

Зніклі гульні, у якія мы, дзеці, гулялі самааддана, забываючыся на ўсе магчымыя межы і правілы. Дзе яны былі, гэтыя межы? Напэўна, у галовах дарослых, якімі мы так хутка сталі.

Дарослымі зрабіліся нашы ўчынкі, якія прыйшлі на змену гарэзлівым гульням і бесклапотным вясёлым размовам. Дарослым стала наша жыццё… Яно ператварылася ў бясконцы «маскарад» з вечна заклапочаным тварам і думкамі пра «хлеб надзённы», з суперважнымі і неадкладнымі справамі, што высмоктваюць усе сілы.

Вядома, потым прыходзіць думка, што нешта трэба мяняць (але што?), выпраўляць памылкі (якія?), але назад білета ўжо няма. Усе ўваходы і выхады завалены ўсялякім смеццем, усімі тымі «неабходнымі» рэчамі, без якіх ты ўжо не можаш уявіць жыццё.

Не, вяртанне немагчыма!

***

Возьмем самае меншае. Вось адкажыце, калі ласка, хто прыдумаў гэтыя невыносныя расклады і рэжымы? Ну чаму менавіта а восьмай раніцы пачынаць заняткі і працу? Якія «жаўрукі» ды «совы»? Напэўна, нешта важнае і цікавае я згубіў у гэтыя «зомба-гадзіны», калі настаўнікі так апантана спрабавалі нешта ўкласці ў нашы галовы. Але ні ў якім разе нікога не абвінавачваю.

«*Mea culpa!*»

«Мая віна» і «мая адказнасць»!

Застаецца толькі даравадь сабе, каб рухацца наперад, спрабуючы ўхапіць за хвост сваю «жар-птушку».

Проста крыху шкада, што ў гэтай недарэчнай спешцы я страціў тое, што пазней давялося адкрываць самастойна: свет літаратуры, мовы, гісторыі… Тое, што з такімі неверагоднымі высілкамі ўспрымалася ў школе. Але, дзякуй богу, нагнаў.

***

Жыццё няспынна ліецца, пераліваецца, прымае самыя нечаканыя і розныя формы… Мы таксама іх «прымаем», ператвараючыся з часам у дарослых, са сваімі незлічонымі забаронамі (забабонамі) ды правіламі, комплексамі, дрэннымі і карыснымі звычкамі, непрыкметна абмяжоўваючы свой свет працай, крамай і хатай…

Вядома, нехта руйнуе гэтыя стэрэатыпы-ланцугі, выбіраючы іншыя шляхі і мадэлі. Такіх адзінкі. І іх не вельмі шануюць ды любяць за такія «парушэнні» агульнапрынятага рэжыму. Яны, гэтыя адзінкі, як быццам служаць «жывым дакорам» шэрай будзённасці і жыццю.

«Я б таксама так мог! Але "домпрацадзеці"!»;

«Дайце мне толькі волю, я і не такое б паказаў!»;

«Як безадказна, як недарэчна так жыць…»

І, суцяшаючы сябе гэтымі немудрагелістымі «формуламі», цягнуць сваю лямку далей… Да самага скону. Сумна і прыкра.

***

Амаль усё знікла…

І, як ні намагаешся вярнуць страчанае, яно ўцякае, даючы ўзамен нейкія формы штучнага шчасця.

«Ты ж дарослы! Усе шляхі перад табою адкрыты. Хочаш — можаш глядзець да раніцы тэлевізар! Хочаш — спаць да абеду! Хочаш — кінуцца ў нейкую авантуру з цікавымі падарожжамі і знаёмствамі!»

«Хачу!»

Але ў большасці выпадкаў усё абмяжуецца паходам у краму і праглядам чарговага серыяла.

«*Mea culpa!*»

«А чыя ж яшчэ?»

Не хапіла смеласці. Не хапіла рашучасці. Не хапіла адказнасці. Шмат чаго яшчэ не хапіла і засталося ў зародку.

І ты зноў падпісваеш з сабою «дамову»: «З панядзелка пачну ўсё наноў!»

Без гэтых дамоў ужо даўно б звар'яцеў.

Загадзя ведаеш, што не выканаеш нават паловы «наабяцанага», але ўсё роўна працягваеш памнажаць сутнасці.

Аднак у першыя дні (і нават тыдні) ты перакананы ў трываласці. Верыш у свае сілы, працаздольнасць і волю! Верыш у сваю (маленькую) Перамогу.

І зноў… Чысты панядзелак чакае наперадзе.

Не вытрымаў! Не вытрываў!

Але каму якая справа да гэтага?

Вяртаючыся ў свае першыя ўспаміны, воляй-няволяй задаешся пытаннем: куды знікла тая «касмічная раўнавага» і радасць ад простых рэчаў, якія не так даўно былі часткай жыцця. І не знаходзіш адказу…

***

Апошнім часам усё часцей успамінаецца, як у далёкім і забытым Богам заснежаным гарнізоне Мангохта (бацька служыў там спецыялістам па сувязі) мы чакаем сям'ёй вячэру.

Мы — простая, звычайная сям'я, якіх тысячы, з маленькімі клопатамі і радасцямі. Амаль нічым не адрозніваемся ад тысячы такіх жа «ваенных сямей».

Але мы шчаслівыя! Я гэта дакладна памятаю.

Маці гатуе вячэру, а мы з татам і малодшым братам збіраем з канструктара нейкія фантастычныя машыны і прыстасаванні. Разам мы забываемся на дзённыя турботы і абавязкі: працу, школу, дзіцячы садок. Мы дома. Мы дома! Мы проста жывём і радуемся вольным гадзінам, удыхаем чарадзейныя пахі з кухні (маці гатуе свой фірмовы мясны пірог).

«Вячэра гатовая!»

Ды быццам не чуем і працягваем гульню. Але пасля другога «поклічу» бяжым.

«Мыць рукі!»

І спрачацца з гэтым безапеляцыйным «мыць рукі» бессэнсоўна. Ды і не надта хочацца. Са смехам і жартамі падпарадкоўваемся матулінай «тэатральнай» строгасці. А потым… А потым кожнаму дастаецца па ладным кавалку духмянага ШЧАСЦЯ!

***

Сёння ўпершыню за шмат бясконцых пахмурных дзён выглянула сонейка. У такія моманты пачынаеш разумець, як жа яго не хапала! Перапаўняе беспадстаўная радасць. Кожным міліметрам скуры адчуваеш надыход вясны. Усе крыўды рассейваюцца. У такія моманты ты гатовы даравадь усім і кожнаму, каму яшчэ не дараваў… і прасіць прабачэння ў Свету за сваё недарэчнае і недасканалае жыццё! Але зараз ты проста ўдзячны, што яно ў цябе ёсць!

**Прафесіі бываюць модныя, а бываюць вечныя: патрэбныя людзям незалежна ад таго, які час ці лад жыцця ў грамадстве. Апошнія якраз сведчаць пра тое, што гэтае грамадства ёсць і хоча развіцца. Філалогія як кірунак, як навука і галіна дзейнасці прыцягальная для тых, хто разумее: гэта актуальна, паколькі людзі даносяць свае думкі і ідэі праз мову, імкнуцца сфармуляваць свае меркаванні як мага больш дакладна і ведаюць, што гэтаму навучаць добрыя настаўнікі. Таксама і народы кантактуюць адзін з адным, хочуць, каб іх разумелі як мага лепш, для гэтага ім патрэбныя выдатныя перакладчыкі. Таму што мова народаў — іх візітоўка, сімвал, па якім ідэнтыфікуюць пэўную культуру. Яна сведчыць пра сябе праз творы прыгожага пісьменства — гонар нацыянальнай літаратуры, а яе адметнасці аналізуюць і вывучаюць літаратуразнаўцы. Адзін кірунак — філалагічны, — а колькі варыянтаў у ім для адукацыі і выбару ўласнай будучыні, колькі спецыялізацый і прафесій адразу. Магчымасці асвоіць іх у нашай краіне даволі багатыя, у кожнай вобласці. Але хто сёння паступае на філфак? Чаго чакаюць ад абітурыентаў і што могуць прапанаваць студэнтам выкладчыкі філалагічных факультэтаў? Пра гэта ў дні прыёмнай кампаніі ў ВНУ пойдзе размова ў нашым праекце «Выбіраем філфак!», пачатак якога прапануем у гэтым нумары.**

# БДУ і філфак, як у моры маяк...



***Што патрэбна абітурыенту, каб авалодаць неабходнымі кампетэнцыямі і стаць сапраўдным філолагам? Любоў да чытання, пайнаўартасна развітае маўленне і шырокі кругагляд — вось «тры кіты», на якія па-ранейшаму абапіраецца адукацыйны працэс. Будучы філолаг павінен быць адкрыты шырокаму спектру гуманітарных ведаў, гатовы да ўсебаковага развіцця індывідуальнасці, раскрыцця інтэлектуальнага, творчага і грамадзянскага патэнцыялу. Усё гэта і забяспечыць гуманітарны склад розуму студэнтаў, якія аб'ектам свайго прафесійнага навучання абіраюць філалогію.***

Маякі, відаць, сталі самымі прыцягальнымі і рамантычнымі з усіх тэхнічных збудаванняў, вядомых чалавецтву. Выпраменьваючы святло ў любое надвор'е і ў любых умовах, стаўшы гарантам бяспекі безлічы мараплаўцаў і ўзорам архітэктурнай элегантнасці, яны ажыўлялі мноства паданняў, легендаў і кніг. Знакаміты Александрыйскі маяк па праву ўключаны ў лік сямі класічных цудаў свету.

Так і філалагічны факультэт БДУ для многіх студэнтаў і выкладчыкаў стаў сапраўднай крыніцай і пасыльным святла Слова і Духоўнасці, пуцяводнай зоркай і надзейным навігатарам на хвалях жыцця і дарогах лёсу, гарантам творчай рэалізацыі асобы ў грамадстве, прывітальным сігналам ад знакамітых заснавальнікаў і плеяды таленавітых кіраўнікоў факультэта. Вынесеныя ў загаловак радкі з гімна філалагічнага факультэта БДУ на словы К. Цыбульскага як нельга лепш вызначаюць велічную ролю навучальнай установы ў жыцці некалькіх пакаленняў беларусаў.

Калі перайсці ад лірыкі да фактаў, то філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта даўно ўжо мае статус нацыянальнага культурнага цэнтра. Тут вучаць і выхоўваюць тых, хто шануе роднае слова, якое не толькі аб'ект лінгвістычнага даследавання, але і сімвал грамадскага і культурнага жыцця, сімвал нацыянальнай культурнай прасторы. Менавіта адсюль выйшлі найвыдатнейшыя майстры слова — такія беларускія паэты, пісьменнікі і дзеячы культуры, як І. Мележ, Р. Барадулін, Н. Гілевіч, В. Адамчык, І. Пташнікаў, І. Чыгрынаў, А. Вярцінскі ды многія іншыя, а таксама прызнаныя вучоныя, якія зрабілі ўнёсак у развіццё беларускага і сусветнага мовазнаўства, літаратуразнаўства і культуры: М. Бірыла, М. Булахаў, А. Булыка, А. Ліс, У. Мархель, М. Мушынскі (пералік можна доўжыць і доўжыць)...

Трывалае, з апірышчам на найбагацейшыя традыцыі і метадычную базу, прафесійнае і творчае навучанне роднаму слову на філалагічным факультэце і сёння абуджае жывую цікавасць таленавітай моладзі да гісторыі, каранёў і вытокаў духоўнасці свайго народа, да глыбокіх нацыянальных традыцый і звычаяў, веданне якіх — абавязак кожнага з нас.

Унікальнасць сённяшняга філфака БДУ — у яго шматмоўнасці і полікультурнасці. Тут вывучаюць не толькі дзве дзяржаўныя мовы Рэспублікі Беларусь — беларуская і руская, але і шмат іншых моў і літаратур свету, што пашырае межы нашай свядомасці і дазваляе зірнуць на з'явы і рэчы з розных бакоў. Не толькі як славяне з шырокай душой, але і як педантычныя немцы, экспрэсіўныя італьянцы або кітайцы, якія абапіраюцца на шматвекавыя культурныя традыцыі.

Ведаць сваё, паважаць іншае, каб падрыхтавацца да жыцця ў полікультурным асяроддзі — такі дэвіз студэнтаў факультэта, дзе працуе шэсць спецыяльнасцяў і прафесійна вывучаюцца 15 моў і літаратур свету, сярод якіх украінская, польская, чэшская, французская, лацінская, старажытнагрэчаская... Каб глыбока спасцігнуць славарных і гармонію замежных моў, узняць прафесійны ўзровень, студэнты праходзяць стажыроўкі ў замежных універсітэтах, удзельнічаюць у разнастайных міжнародных праграмах і праектах. Ва ўмовах глабалізаванага свету такі адукацыйны падыход — дзейсны сродак забеспячэння міжкультурнага дыялогу, узаемаразумення, абмену інфармацыяй, захавання культурных набыткаў.



Філалагічны факультэт БДУ — гэта яшчэ і ўнікальны цэнтр падрыхтоўкі спецыялістаў для папулярызацыі беларускай і рускай моў у сусветнай культурнай прасторы. Наша родная мова вывучаецца сёння ў розных універсітэтах Расіі, Украіны, Літвы, Чэхіі, Славакіі, Венгрыі, Германіі, Фінляндыі, Кітая, Японіі ды інш. У многіх з іх працуюць нашы выпускнікі або замежныя спецыялісты, якія прайшлі навучанне і стажыроўкі па беларускай мове як замежнай на філфаку БДУ. Разам з тым і наш факультэт сёння таксама шматнацыянальны: тут вучацца, стажыруюцца і працуюць грамадзяне розных замежных краін. Заняткі арганізаваны з улікам патрэб сучаснага адукацыйнага працэсу.

Класічная адукацыйная праграма дапаўняецца культурна-выхаваўчай і культурна-спартыўнай. Студэнтаў, выкладчыкаў і гасцей факультэта чакаюць турзлёт «Мінскае мора», «Візітоўкі першакурснікаў», «Дабрачынны калядны баль», патрыятычна-асветніцкая акцыя «Вязынка», «Фестываль моў», «Тыдзень роднай мовы», «Беларуская вечарына», «Славянскі вечар», інтэлектуальна-пазнавальная гульня «Філалогія і я», «Лінгвістычны брэйн-рынг», «Кошыкбол» ды многія іншыя.

Да чаго павінен быць гатовы наш абітурыент? Акрамя засваення комплексу тэарэтычных ведаў па вызначаных дысцыплінах, яго чакае скрупулёзная, паслядоўная, сістэмная праца над вусным і пісьмовым маўленнем, выпрацоўка культуры маўлення і культуры мыслення, здольнасці да ўспрымання, аналізу і абагульнення інфармацыі, умення ствараць і рэдагаваць тэксты; выпрацоўка навыкаў практычнага выкарыстання функцыянальных стыляў і авалодання нормамі літаратурных моў — усё гэта скіравана найперш на эфектыўную камунікацыю, паколькі наш сённяшні выпускнік — гэта ўжо не толькі выкладчык, педагог, але і мабільны перакладчык, рэдактар часопіса, спартыўны агляндальнік, крэатыўны спецыяліст у сферы дзелавой камунікацыі або камп'ютарнай філалогіі. Веданне некалькіх замежных моў, разуменне працэсаў іх развіцця і ўзаемадзеяння ў гісторыі, мастацтва інтэрпрэтацыі і ацэнкі тэкстаў і асэнсаванне сучасных літаратурных працэсаў — усё гэта абавязковыя элементы нашай адукацыі.

«Калі ёсць на свеце штосьці надзейнае — то гэта святло маяка», — сцвярджала вядомая фінская пісьменніца Тувэ Марыка Янсан. Кажуць, эквівалентам магутнага святла маяка з'яўляюцца дваццаць мільёнаў запаленых свечак. Такім жа надзейным гарантам сучасных ведаў у сферы гуманітарнай адукацыі па-ранейшаму застаецца філфак БДУ, асветлены агеньчыкамі мноства неабыякавых сэрцаў яго студэнтаў, выкладчыкаў і выпускнікоў.

**Анжаліка САДОЎСКАЯ,**
**кандыдат філалагічных навук,**
**дацэнт кафедры сучаснай**
**беларускай мовы БДУ**

# Педагагічны ўніверсітэт: паэтычная майстэрня і цэнтр літуаністыкі

***Сёння філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка — шматнацыянальная дружная сям'я студэнтаў з розных краін, аб'яднаная мэтай набыць трывалыя грунтоўныя веды, якія паспрыяюць паспяховаму кар'ернаму росту. Дэвізам факультэта ва ўсе часы была якасная адукацыя. Набыць яе дапамагаюць вядомыя ў краіне і за яе межамі лінгвісты і літаратуразнаўцы, па падручніках якіх было падрыхтавана не адно пакаленне прафесійных філолагаў.***



Сярод знакамітых выпускнікоў факультэта — імёны, вядомыя ўсёй краіне: народныя паэты Пімен Панчанка, Аркадзь Куляшоў, пісьменнікі Сяргей Грахоўскі, Анатоль Вялюгін, Аляксей Кулакоўскі, Алесь Бачыла, навукоўцы Мікалай Бірыла, Васіль Жураўлёў, Юзэфа Мацкевіч, Мікалай Мішчанчук, Віктар Каваленка ды інш.

Сярод студэнтаў — спевакі, танцоры, валанцёры, рэжысёры, спартсмены, грамадскія актывісты, удумлівыя навукоўцы, якія ўжо маюць навуковыя публікацыі. Многія філолагі спрабуюць сябе ў паэтычнай майстэрні, абмяркоўваюць з аднакурснікамі першыя творчыя здабыткі.

На факультэце функцыянуюць Цэнтр азербайджанскай мовы і культуры, Цэнтр ізраільскай культуры і вывучэння мовы іўрыт, Цэнтр літуаністыкі. Аднак брэнд факультэта і ўніверсітэта — усё ж Цэнтр беларускай літаратуры і культуры, які носіць імя народнага паэта Беларусі Максіма Танка.



Сустрэча з Васілём Зуёнкам



# Гродна: «Купалаўскія чытанні» і лекцыі амерыканскіх прафесараў

***Большую частку нашага новага філалагічнага студэнцтва складаюць тыя, хто свядома і мэтанакіравана абраў спецыяльнасці, дзе дамінантай застаецца педагагічная дзейнасць. Безумоўна, паміж колішнімі філолагамі і цяперашнімі навучэнцамі факультэта шмат адрознага. Адрознасць гэтая прадыктаваная спецыфікай новага часу, іншымі ўмовамі навучання. Нязменнымі засталіся неўтаймоўная маладая энергія, адчуванне красы Слова, жаданне шукаць і знаходзіць новае.***

Калі зазірнуць у гісторыю асветы, можна ўпэўніцца, што філалагічныя навукі здаўна складалі яе аснову. Так, Дзмітрый Ліхачоў, вядомы знаўца філалогіі, прафесар, канстатаваў: «Філалогія — гэта найвышэйшая форма гуманітарнай адукацыі».

Думаецца, статус філалогіі як вядучай формы гуманітарнай адукацыі не змяніўся і ў наш час. Сведчаннем таму — нязменнае і паступальнае развіццё філалагічных навук у Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы — найстарэйшай навучальнай установе заходняга рэгіёна нашай рэспублікі.

Філалагічны факультэт — равеснік універсітэта. У 1940 годзе быў абвешчаны першы набор: спачатку — на аддзяленне беларускай мовы і літаратуры, а затым — і на аддзяленне рускай мовы і літаратуры. Пасля гэтыя аддзяленні сталі асновай для стварэння літаратурнага факультэта. Пазней быў створаны філалагічны факультэт, які з'яўляецца сёння буйным лінгвістычным цэнтрам, мае высокатэхналагічную базу.

Факультэт забяспечвае падрыхтоўку спецыялістаў у галіне рускай, беларускай і славянскай філалогіі па сучасных напрамках: дзелавая камунікацыя, літаратурна-рэдакцыйная дзейнасць, руская мова як замежная.

Мы з'яўляемся адной з вядучых ВНУ краіны, што ажыццяўляе падрыхтоўку высокакваліфікаваных кадраў па спецыяльнасці «Сучасныя замежныя мовы» з глыбокім вывучэннем англійскай, нямецкай, французскай, польскай, іспанскай і італьянскай моў.

У 2015 годзе на факультэце адбыўся набор на новую спецыяльнасць «Рамана-германская філалогія» на базе англійскай і нямецкай моў, выпускнікі якой будуць мець кваліфікацыю «Філолаг. Выкладчык дзвюх замежных моў і літаратур. Перакладчык».

Падрыхтоўку студэнтаў на факультэце забяспечваюць спецыялізаваныя кафедры з устойлівым і стабільным складам выкладчыкаў. У ліку вядомых беларускіх вучоных-філолагаў гучаць імёны гродзенскіх навукоўцаў, прафесараў, што некалі працавалі на філалагічным факультэце: І. Лепешаў, П. Сцяцко, В. Нікіцевіч. Сёння навуковыя традыцыі працягваюць іх наступнікі і вучні: М. Канюшкевіч, Т. Аўтуховіч, М. Даніловіч, А. Нікіцевіч, якія і сёння працуюць на вядучых кафедрах факультэта.

**Кафедра беларускай філалогіі** створана на базе кафедры беларускага і супастаўляльнага мовазнаўства і кафедры беларускай літаратуры. Сталыя традыцыі кафедры — правядзенне навуковай канферэнцыі «Купалаўскія чытанні» і супрацоўніцтва з кафедрай беларускай філалогіі Беластоцкага ўніверсітэта (Польшча). Пасля заканчэння навучання студэнты маюць магчымасць працягнуць вучобу ў магістратуры па спецыяльнасці «Супастаўляльна-гістарычнае, тыпалагічнае і супастаўляльнае мовазнаўства».

**Кафедра рускай філалогіі** вядомая грунтоўнымі вучэбна-метадычнымі і навуковымі напрацоўкамі. Імідж кафедры ствараецца вядомай далёка за межамі ўніверсітэта навуковай канферэнцыяй «Взаимодействие литератур в мировом литературном процессе», удзелам у прэстыжных міжнародных алімпіядах і конкурсах. Шматлікія спецыялісты ў галіне філалогіі прайшлі падрыхтоўку ў магістратуры па спецыяльнасцях «Літаратуразнаўства», «Руская мова», «Прыкладная і матэматычная лінгвістыка» ці аспірантуры па спецыяльнасцях «Тэорыя літаратуры. Тэксталогія», «Руская мова», «Тэорыя мовы».

**Кафедра польскай філалогіі** з'явілася ў складзе факультэта ў 1989 годзе. Дзейнасць кафедры цесна звязана з буйнымі навуковымі цэнтрамі Рэспублікі



Польшча (Гданьскі ўніверсітэт, Педагагічны ўніверсітэт у г. Кракаве, Польская акадэмія навук ды інш.). У рамках міжнароднага супрацоўніцтва ажыццяўляецца чытанне спецкурсаў і манаграфічных лекцый вядучымі спецыялістамі ў галіне мовазнаўства і літаратуразнаўства. Пры кафедры польскай філалогіі працуе літаратурны музей Зоф'і Налкоўскай, адкрыты кабінет польскай філалогіі.

**На кафедры англійскай філалогіі** выкладаецца шырокі спектр дысцыплін («Грамадства і культура англамоўных краін», «Сучасная Амерыка», «Культура і літаратура Вялікабрытаніі і ЗША» і інш.), накіраваных на пашырэнне кругагляду і развіццё культуралагічных кампетэнцый студэнтаў. Для чытання вышэйзгаданых курсаў кафедра штогод запрашае прафесараў з вядучых амерыканскіх універсітэтаў, якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць па праграме Фулбрайта.

**Кафедра рамана-германскай філалогіі** цесна супрацоўнічае з Інстытутам імя Гётэ, з моўнай кафедрай Беластоцкага ўніверсітэта. Студэнты праходзяць навуковыя і моўныя стажыроўкі па праграме ДААД у розных ВНУ Германіі. Пры кафедры створаны Цэнтр нямецкай культуры.

Мы сочым за зменлівым рынкам працы і робім усё неабходнае, каб нашы выпускнікі былі запатрабаваны не толькі ў рэчышчы адукацыйных паслуг, але і ў іншых сферах дзейнасці.

Міжнароднае супрацоўніцтва са шматлікімі замежнымі партнёрамі дае неабмежаваныя магчымасці студэнтам ладзіць замежныя стажыроўкі, удзельнічаць у праграмах акадэмічных абменаў. Як вынік — выпускнікі запатрабаваныя не толькі ў вучэбных класах і студэнцкіх аўдыторыях, але і ў дзяржаўных, грамадскіх арганізацыях, у турыстычным і гасцінічным бізнесе, на прадпрыемствах.

Сённяшнія студэнты філалагічнага факультэта вывучаюць творчасць сваіх слынных папярэднікаў — Фёдара Янкоўскага, Аляксея Карпюка, Дануты Бічэль. У 90-я гады творчае аблічча філалагічнага факультэта фарміравала літаратурная суполка «Надні́манская галасы», з якой выйшлі Ю. Гумянюк, Ю. Пацюпа, Э. Мазько, А. Брусевіч. Літаратурны патэнцыял гродзенскага філалагічнага факультэта і сёння застаецца вельмі высокім. Большасць выкладчыкаў літаратуры — члены СПБ. Натуральна, што такая сітуацыя своеасаблівым чынам уплывае і на студэнтаў. Трэцяя частка сёлетніх выпускнікоў спецыяльнасці «Беларуская філалогія» атрымала чырвоныя дыпломы. А дзве студэнткі — Аліна Паўлоўская і Вікторыя Смолка — паспелі за час навучання выдаць першыя паэтычныя зборнікі і такім чынам сцвердзіць, наколькі гарманічна могуць пераплятацца ў творчай асобе навуковы і творчы пошук.

**Святлана ТАРАСАВА,**
**адказны за прафарыентацыйную работу на філалагічным факультэце, старшы выкладчык кафедры беларускай філалогіі**



# Магілёў: «Апошні экзэмпляр» і дыскусіі ў «Падземцы»

***Нашы сённяшнія студэнты, кім бы яны ні былі ўчора: медалістамі, удзельнікамі ці пераможцамі раённых, абласных і рэспубліканскіх алімпіяд або проста звычайнымі вучнямі, — маюць актыўную жыццёвую пазіцыю, становяцца ініцыятарамі і выканаўцамі многіх факультэцкіх, агульнаўніверсітэцкіх, гарадскіх і абласных мерапрыемстваў, бяруць удзел у валанцёрскім руху і гэтак жа, як некалі і мы, мараць, што абавязкова зменяць свет да лепшага.***

Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. А. Куляшова — адна з першых вышэйшых навучальных устаноў у рэспубліцы. Створаны ў 1934 годзе на базе літаратурна-лінгвістычнага аддзялення, якое дзейнічала з 1918 года, філалагічны факультэт доўгі час быў самастойнай структурнай адзінкай (з 1934 па 1956 гг. — факультэт мовы і літаратуры; з 1956 па 1998 гг. — філалагічны факультэт; з 1998 па 2015 гг. — факультэт славянскай філалогіі, з 2015 г. — гісторыка-філалагічны факультэт).

Асноўным напрамкам дзейнасці факультэта заўсёды была падрыхтоўка педагагічных кадраў — настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры, настаўнікаў рускай мовы і літаратуры. З 1995 года пачалася падрыхтоўка настаўнікаў замежнай мовы — англійскай, нямецкай і у 1997 годзе — французскай, што стала падставай для вылучэння ў 1998 годзе з саставу філалагічнага факультэта самастойнага факультэта замежных моў (цяпер —



факультэт рамана-германскай філалогіі). Да таго ж у 2002 годзе распачалася падрыхтоўка журналістаў. Штатны склад спецыялістаў-філолагаў мае 73 % выкладчыкаў з вучонымі ступенямі і званнямі.

Каля 30 год на факультэце рэгулярна ладзіцца міжнародная навукова-практычная канферэнцыя «Куляшоўскія чытанні». У межах гэтай канферэнцыі, а таксама з дапамогай асобных мерапрыемстваў ушаноўваюцца выкладчыкі, якія зрабілі ўнёсак у развіццё беларускага і рускага мовазнаўства. Больш за 10 гадоў арганізоўваюцца літаратурныя імпрэзы — своеасаблівае падагульненне вывучэння творчасці пісьменнікаў (Я. Купалы, Я. Коласа, М. Гарэцкага, М. Багдановіча, Ф. Аляхновіча ды інш.). На факультэце дзейнічае літаратурна-мастацкае аб'яднанне «Натхненне» і літаратурна-мастацкі салон, гісторыя якіх налічвае дзясяткі гадоў. Ім папярэднічаў літаратурны гурток, які працаваў на факультэце яшчэ з 30-х гадоў мінулага стагоддзя. Літаратурны гурток адкрыў шлях у вялікую літаратуру В. Матэвушаву, М. Гарулёву, Э. Валасевічу, П. Шасцерыкову ды інш.

Намаганнямі прэс-службы студэнтаў-журналістаў рэалізуюцца наступныя праекты: электронная газета «Наша версія», якая была прызнана найлепшай студэнцкай газетай Рэспублікі Беларусь па спецыяльнасці «Журналістыка» ў 2014 і 2016 гг.; дыскусійны журналісцкі клуб «Падземка»; відэанавіны ўніверсітэта, якія маюць больш за паўтары тысячы падпісчыкаў; літаратурны клуб «Апошні экзэмпляр».

Даўняя філалагічная традыцыя — сустрэчы з пісьменнікамі, дзе абмяркоўваюцца новыя літаратурныя творы, арганізуюцца прэзентацыі кніг, творцы дзеляцца развагамі пра літаратуру і мастацтва, творчымі планамі. З пачаткам падрыхтоўкі спецыялістаў для друкаваных сродкаў масавай інфармацыі пастаяннымі гасцямі факультэта сталі майстры публіцыстыкі, вядомыя журналісты.

Іншагароднія студэнты філалагічнага аддзялення факультэта абавязкова забяспечваюцца інтэрнатам, які знаходзіцца на адной з найстарэйшых вуліц горада — так званым Магілёўскім Арбаце — пешаходнай вуліцы Ленінскай.

**Вольга ШАРШНЁВА, загадчык кафедры агульнага і славянскага мовазнаўства МДУ імя А. А. Куляшова, кандыдат філалагічных навук, дацэнт**

Працяг тэмы — у наступным нумары.

# ДЫЯЛОГ З ЧАСАМ



*Хрысціна Мельнік «Алегорыя кахання».*

Больш за дваццаць гадоў наведваю абароны дыпломных праектаў у Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў ды іншых сярэдніх і вышэйшых навучальных установах культуры і мастацтва. І як глядач, і як рэцэнзент. Заўважыла, што апантаныя творчасцю, натхнёныя юнакі і дзяўчаты, не згаворваючыся, выяўляюць у вобразах нерв, а можа, нават архетып свайго часу. Адзін год у дыпломных спектаклях, на карцінах, у скульптурах, дызайнерскіх праектах выпускнікоў раптам з'яўляўся каўчэг, а дакладней, наша беларуская «ладдзя роспачы». А другім разам настойліва выплываў Маладзік... У канцы мінулага стагоддзя, тысячагоддзя дыпломнікі любілі перамаўляцца з Прасторай, якую, згадзіцеся, мы сёння, можна лічыць, пераадолелі (самалёт, мабільнік і г. д.). Сёлета, як сведчаць дыпломныя работы, самая вялікая і прыцягальная інтрыга — гэта неспазнаны пакуль што Час. Астрафізікі выказалі гіпотэзу, што касмічныя чорныя дзіркі — гэта месца, дзе Час сутыкаецца з Прасторай. Маладыя мастакі выяўляюць свае шляхі, а дакладней, сцяжынкі спазнання, пераадолення, вобразнай матэрыялізацыі Часу.

## Сцяжынка першая: праз гісторыю мастацтва

Дыпломныя праекты выпускнікоў факультэта дызайну і дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва разлічаны не толькі на сённяшні дзень, але часцей на будучыню. Гэта датычыць і вельмі прыгожых керамічных кампазіцый з філасофскім падтэкстам, і вострасучасных па візуальнай стылістыцы плакатаў, праектаў кніг выпускнікоў кафедры графічнага дызайну, і зручных, прыгожых рэчаў, якія прапануюць выпускнікі кафедры прамысловага дызайну... А яшчэ ж ёсць дызайнеры інтэр'ера, мэблі, адзення...

І ўсе яны, як сведчаць іх работы, выдатна ведаюць гісторыю мастацтва. І сусветнага, і беларускага. Так, стыль постмадэрнізму і пострадыцыя, што сёння пануюць у свеце, вымагаюць ад мастакоў, каб яны гісторыю мастацтва ведалі на дотык, каб яны яе адчувалі. І дзякуючы кафедры тэорыі і гісторыі мастацтва, дзе працуюць сапраўдныя прафесіяналы, выпускнікі ўсведамляюць, у якім кантэксце ім належыць весці дыялог з сучаснікамі. Нагадаю, што рэктар БДАМ Міхась Баразна не толькі цудоўны фотамастак, дызайнер, але і кандыдат мастацтвазнаўства, аўтар манаграфій па гісторыі мастацтва, адна з якіх — «Гісторыя выяўленчага мастацтва Беларусі XX стагоддзя» — выйшла нядаўна.

Сёлета мяне асабліва ўразіла, як нечакана вобразы з гісторыі мастацтва далікатна і ненавязліва пераўтвараліся ў дыпломных праектах мадэльераў і мастакоў па тканінах (кафедра касцюма і тэкстылю). Ці не самай вострасучаснай выглядала калекцыя вячэрняга адзення «Медэя» В. Лавінскай (кіраўнік — дацэнт кафедры Г. Я. Мяшкова). І хаця спецыялісты бачылі ў ёй нават элементы вельмі актуальнага сёння спорт-шыку, асноваю, камертонам усіх вобразаў была старажытнагрэчаская архаіка. Яна выяўлялася і ў лёгкасці, акрыленасці натуральных тканін, і ў плаўнасці ледзь заўважных хвалістых арнаментаў, і нават у ідэі фемінізму, якая праступала яшчэ ў старажытнагрэчаскіх міфах. А ў калекцыі жаночага адзення «Пацалунак Клімта» В. Пахомавай (кіраўнік — дацэнт А. Васільева) у каларыце, лініях ажывалі вобразы аднаго з самых папулярных на сёння мастакоў эпохі мадэрну. Вельмі сучасна пераўтвараліся дэкларававаныя на пачатку XX стагоддзя А. Матысам ідэі фавізму ў калекцыі жаночага адзення «Які малюе колерам» В. Маслабоевай (кіраўнік — дацэнт А. Васільева), арыгінальна ўвасобіла праз сучасныя рэмінісцэнцыі ў калекцыі свой «Аўтапартрэт» А. Крыўчэня (кіраўнік — дацэнт кафедры М. Шчамялёва)...

Мастакі па тканінах пад кіраўніцтвам старшага выкладчыка І. В. Мазюк і ўжо згаданых вышэй выкладчыкаў прадставілі канцэптуальныя кампазіцыі. Выкарыстоўваючы традыцыйныя матэрыялы і тэхнікі (ручное рамізнае ткацтва, лямец, аўтарскі, мастацкі тэкстыль), дыпломнікі здолелі дакрануцца да «Вібрацыі лета», таямніцы «Купальскай ночы», «Балансу светабудовы» і нават «Глыбіні сусвету»... А Г. Багрыцэвіч распрацавала серыю мастацкага роспісу па тканіне для царкоўнай школы г. п. Стыклева (кіраўнік — прафесар кафедры В. П. Бартлава). Мяркуецца, што да кожнага з вялікіх святаў («Каляды», «Вялікдзень» і інш.) на акне будзе з'яўляцца свая, каларыстычна сугучная нашым адвечным традыцыям кампазіцыя.

## Сцяжынка другая: праз спасціжэнне спрадвечных ісцін

Кафедра манументальна-дэкаратыўнага мастацтва ў апошнія гады ўражвае канцэптуальнасцю прапанаваных да абароны праектаў. Вядома, каб развазваць пра спрадвечнае, мастак мусіць настолькі дасканала валодаць усімі сучаснымі тэхнікамі і тэхналогіямі, каб глядач не задумваўся пра тое, як гэта зроблена, а суперажываў таму, што бачыць. Пачалася абарона дыпломных работ на мастацкім факультэце з прэзентацыі вялікага праекта «Знакі» Я. Ваховіч для будынка дырэкцыі Храма Усіх Святых. У круглых нішах змешчана 10 рэльефных уставак з выявамі хрысціянскіх сімвалаў (манаграма Хрыста, Рыба, Крыж, галава херувіма, Анёл, чаша Еўхарыстыі, сімвалы чатырох Евангелістаў (Анёл, Леў, Арол, Цялец). Кіраўнік дыпломнай работы — дацэнт кафедры манументальна-дэкаратыўнага мастацтва, лаўрэат спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі Д. У. Чубукоў, пад кіраўніцтвам якога, дарэчы, студэнтамі і выпускнікамі БДАМ (гэта Ю. Пеўнеў, В. Грынь, А. Пуцыковіч (сёлета ён скончыў БДАМ па спецыяльнасці МДМ «Рэстаўрацыя»), А. і Я. Багданавы, Н. Клюева, Я. Чысты, М. Карэлін ды інш.) у 2012 — 2014 гадах былі зроблены і ўсталяваны амаль усе грандыёзныя мазаікі, што аздабляюць Храм Усіх Святых.

Пра вечныя вобразы і вечныя ісціны маладыя мастакі думаюць і працуючы над творамі не толькі для культавых, але і грамадскіх будынкаў. За апошнія гады абарона дыпломных работ кафедры МДМ ладзілася і ў Міністэрстве замежных спраў Рэспублікі Беларусь, дзе на сценах засталіся знакавыя работы выпускнікоў, і ў гасцініцы «Мінск», адміністрацыя якой ганарыцца вітражамі і пано, што былі створаны ў яе інтэр'ерах, і на вытворчым аб'яднанні «Керамін», дзе выпускнікі пераўтварылі, эстэтызавалі прамысловую прастору, і ў сярэдніх навучальных установах... Некалькі апошніх гадоў, пакуль ішла рэканструкцыя БДАМ, выпускнікі абавязкова прадстаўлялі праекты для роднай альма-матар. Сёлета адзін з праектаў быў амаль цалкам рэалізаваны. Гэта вітраж, дакладней, чатыры вітражы ў тэхніцы цыфані, якія можна ўбачыць, калі падымаешся па лесвіцы галоўнага корпуса, — «Нараджэнне святла» Ю. Пакінай, М. Субцэльнага (кіраўнік — загадчык кафедры МДМ, прафесар У. Л. Зінкевіч). Не зважаючы на тое, што вітражы абстрактныя, ствараецца ілюзія рэальных відарысаў за акном, пластычна яны вельмі жывыя, быццам пульсуюць, а яшчэ — перадаюць, як узыходзіць сонца, і святло акрэсліве колеры. У. Л. Зінкевіч быў кіраўніком яшчэ аднаго твора пра вечнае. Вельмі паэтычна, лірычна ў белай прасторы ўвасобіла «Алегорыю кахання» К. Мельнік. А праекты Т. Карпачовай (праект «Гэты колер...» (прапануецца прастора для асэнсавання некалькіх узростаў жанчыны), кіраўнік — дацэнт Л. А. Макатун) і Н. Шкрабы (праект «Пошукі сябе» (праз жывую фактуру камянёў асэнсоўваецца нашае месца ў гісторыі), кіраўнік — старшы выкладчык І. Маланаў) уразілі ўсіх вострасучасным поглядам на свет.

## Сцяжынка трэцяя: праз гісторыю свайго народа

Вельмі люблю цытаваць выдатнага рускага скульптара Веру Мухіну: «Скульптура вучыць думаць углыбіню».

Глыбіню скульптар магчыма ўвасобіць і ў вобразе канкрэтнага чалавека, як гэта зрабіла Э. Грышачкіна, прадставіўшы праект помніка графу Чапскаму (кіраўнік — загадчык кафедры, прафесар У. І. Слабодчыкаў), і праз вобразны аналіз сваіх пачуццяў, суаднесеных з традыцыйным мастацтвам сваёй краіны («Стан» Чэн Шунін (КНР) (кіраўнік — дацэнт кафедры А. Прохараў). Але асаблівыя пачуцці выклікаюць заўсёды вобразы, звязаныя з гісторыяй свайго народа. Кампазіцыя «Шлях» А. Лугіной (кіраўнік — дацэнт кафедры А. В. Прохараў) прысвечана трагічным старонкам нашай гісторыі... Ці то трава, што гнецца ды не ломіцца, ці то языкі полымя, праз якія празрыстымі ценямі праходзяць і растаюць у наваколлі незаслужана пакараныя, нявінныя душы... Колькі такога было на нашых землях... Нам выпала жыць на скрыжаванні, на скразняку, між захадам і ўсходам... Але і ў старшыні Дзяржаўнай камісіі, народнага мастака Беларусі, выдатнага скульптара Івана Міско, і ў мяне, і ў шмат каго, хто бачыў гэты твор, адразу ў памяці ўсплылі Курапаты. На абароне мы абмяняліся меркаваннямі. Разумею, што конкурс на вобраз памятнага знака мае свае ўмовы прадстаўлення. Але калі ўяўляеш, як востра ўспрымалася б кампазіцыя «Шлях» А. Лугіной сярод гонкіх хвояў, што шэпчуць галасамі тых самых ценяў нявінна пакараных пакутнікаў, немагчыма ўтрымацца ад таго, каб прапанаваць звярнуць увагу на гэты ўвасоблены юнай мастачкай твор.

## Сцяжынка чацвёртая: праз вастрыню ўспрымання свету

Творы выпускнікоў кафедры графікі заўжды ўражваюць вастрынёй падачы вобразаў. Сёлетнія работы былі скіраваныя найперш на рацыянальнае ўспрыманне. І на самым пачатку абароны С. Сіліч серыяй лінарытаў «Касмаганічныя міфы народаў свету» (кіраўнік — дацэнт кафедры П. Ю. Татарнікаў) адразу ўзняў планку інтэлектуальнай насычанасці сучасных твораў. Каб атрымаць сапраўдную — і эмацыянальную, і рацыянальную асалоду ад прадстаўленых графічных аркушаў, — проста неабходна было тлумачэнне. Дыпломнік здолеў у вобразных структурах, дзе ёсць і глыбокі чорны, і вытанчаныя, зблытаныя ў адвечных арнаментах і каліграфічных знаках лініі, прадставіць уяўленне пра касмагонію ў аўраамскай (іудзейскай), славянскай (дрэва жыцця), германа-скандынаўскай, саамскай, цэнтральнаамерыканскай версіях. Ф. Шурмялёў у сваіх загадкавых графічных аркушах прадставіў «Старажытнагрэчаскія міфы пра знакі Задыяка» (кіраўнік — прафесар кафедры В. П. Славук), А. Простак заглыбілася ў «Свет асобы» (кіраўнік — выкладчык А. Ярашэвіч), а К. Крэйдзіч назвала серыю сваіх работ «Без слоў» (кіраўнік — загадчык кафедры, дацэнт Ю. І. Хілько). Уразілі ўсіх майстэрствам пераасэнсавання жывой пластыкі грандыёзныя па памерах для графічных аркушаў творы «Выбар» (аўтар — М. Нячай-Ніцэвіч, кіраўнік — Ю. І. Хілько). К. Дасько ў сваёй дыпломнай працы бліжэй за ўсіх дакранулася да азначанага ў падтэксце нерва, архетыпа сённяшняй рэальнасці. «Плынь часу» — так называлася серыя яе афортаў (кіраўнік — выкладчык кафедры Р. М. Сустаў). І адметным эпіграфам да яе сталі словы Імануіла Канта: «Час ёсць не што іншае, як форма ўнутранага пачуцця, гэта значыць назірання за намі самімі, нашым унутраным станам. Ён належыць не самім прадметам, а толькі суб'екту, які на іх глядзіць». К. Дасько ўглядалася ў Час праз павелічальнае шкло сваёй уласнай памяці і адкрывала выявы з пульсоўных абстрактных «Вытокаў», напоўненага глыбінным сэнсам «Даўняга», увасобленага ў тварах і гуках «Нядаўняга», у тварэннях рук «Учора», хуткаплынным, яшчэ не зафіксаваным імгненні «Сёння», дыялогу з унутраным «Я» — «Заўтра», акрэсленай у трохкутнік мэты — «Потым», далоні ў кругавым сплецінні, руху светлавых ліній — «Будучыні». А ў цэнтры гэтага адмысловага вобразнага гадзінніка — круг (памятаецце, у астрафізікаў — касмічная чорная дзірка?). Мастачка ж вызначае гэтую кропку сутыкнення з Часам як «абмежаваную бясконцасць»... Квадрат белага аркуша, які можа змясціць бясконцае кола нашых здагадак і асацыяцый...

## Сцяжынка пятая: праз родныя краявіды

Гэта самы няпросты на сёння шлях. Ад жывапісу мы заўжды чакаем эмоцый. Яго, жывапіс, не трэба тлумачыць. Яго трэба ўспрымаць на адным дыханні... Як успрынялі пейзажы «Азёрны край» А. Цімчанка і «Родны краявід» У. Сайко (кіраўнік — загадчык кафедры, дацэнт У. П. Масленікаў), і карціну «Дачыненне», прысвечаную Гародні, К. Калеснікавай, алегарычнае палатно «Абуджэнне» І. Бяловай, «Ранак у стэпе» Ван Цяожу (КНР) (кіраўнік — прафесар кафедры, дацэнт В. А. Герасімаў). Сімвалічным падаецца, што адзін з лепшых сёлетніх выпускнікоў кафедры А. Пакаціла, які ў карціне «Роздум» вобразна пераасэнсаваў першыя крокі ў мастацтве, ад нараджэння не чуе і не можа гаварыць. Але ж як ён адчувае... І прыроду, і людзей, і жывапіс, які даў яму магчымасць данесці да нас свае пачуцці і думкі... Спасцігаць Час, мінулае, сучаснасць, будучыню праз, здавалася б, такія простыя, звыклыя, зразумелыя для ўсіх рэчы вельмі няпроста. Але, адкрываючы гармонію ў навакольным свеце, кожны з нас адкрывае гармонію ў сабе. Менавіта гэта — найвялікшы скарб беларускай школы выяўленчага мастацтва.

**Галіна БАГДАНАВА**

# Без падводных камянёў

## Героі ўзнімуць са дна мора

**Тэндэнцыю пошуку сцэнічнага героя падтрымлівае Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага. Гэтым разам не трэба сягаць углыб стагоддзяў Беларусі ці пагружацца і вывучаць мінулае іншых краін ды народаў з блізкімі ці павучальнымі гісторыямі. Пра не надта далёкае мінулае нагадвае спектакль «Падводнікі» ў пастаноўцы Сяргея Кавальчыка паводле п'есы Андрэя Курэйчыка.**

### РАТУЕМ СВЕТ

Мінулае, не вельмі забытае, — савецкае — паўстае праз гісторыю падводнай лодкі. Магчыма, пастаноўка навеяна ў тым ліку і паспяховымі фільмамі на гэтую тэму «К-19» ці «72 метры», якія ўразілі напружаннем і драматызмам, але і паказалі прыклады характараў сапраўдных мужчын, якія ў безвыходнай сітуацыі спрабуюць уратавацца ад смерці. Але яшчэ і думаюць пра лёс усяго чалавецтва. Асабліва кранала ў гэтых фільмах разуменне таго, што ўсё гэта ў прынцыпе могуць быць гісторыі рэальных людзей, рэальных падзей. Рэальнай пагрозы, якая можа плаваць недзе ў моры літаральна цяпер і выбухнуць ядзернай катастрофай з-за нейкай непрагназаванай сітуацыі.

Здавалася б, што за справа да гэтага нам, краіне, якая не мае выхаду да мора, адпаведна, ваенна-марскога флоту і сваіх гісторый яго славы? Затое Беларусь мае сваіх герояў-падводнікаў. Пра іх мала што было вядома да пэўнага часу. А яны вартыя таго, каб ведалі. Таму спектакль «Падводнікі» — гэта насамрэч не толькі расповед пра гераічных людзей, але і гісторыя пра тое, як беларус ратуе свет.

Яго імя Іван Міцкевіч. Ён галоўны герой спектакля, што прадстаўляе айчынны погляд на колішнія падзеі з атамнай падлодкай «К-19» (насамрэч фільм з Харысанам Фордам у галоўнай ролі крытыкавалі ўдзельнікі тых падзей, што выжылі). Паводле нашай версіі, усе — героі. Усе разумеюць, у якіх умовах служаць, а галоўнае — каму. Ці то камандзір з зампалітам, ці то «бульбаш», ці то мусульманін, які робіць намаз нават на падлодцы, — усе найперш савецкія людзі. Ідэалагічнае супрацьстаянне з ЗША, халодная вайна ўскладняюць становішча экіпажа, што закаваны на дне мора ў металічнай субмарыне, дзе пашкоджана сістэма ахаладжэння ядзернага рэактара: несумленны зваршчык дапусціў халатнасць, дробязь, з-за якой пайшла ўцечка радыяцыі. На дапамогу не паклікаць: гэта ўсё адно што здацца ворагам. Спыніць уцечку, ратаваць лодку трэба самім, і не толькі дзеля сябе, а дзеля ўсіх чалавечых істот, якім можа пагражаць нябачная радыяцыя. Просты чалавек, з вёскі, ад зямлі, але вельмі кемлівы беларус, якога называюць «Бульбаш», прыдумляе, як адрамантаваць рэактар, і робіць гэта з памочнікам, ухапіўшы вялікую долю радыяцыі…



*Сцэна са спектакля «Падводнікі».*

### СВЯТЛО ЗНУТРЫ

Тэатр распавядае гэтую драматычную гісторыю з імкненнем наблізіцца да рэчаіснасці, спрабуючы праілюстраваць гледачам існаванне на падводнай лодцы: на сцэне мы бачым яе нібыта ў разрэзе, некалькі адсекаў (над сцэнаграфіяй працавала Ала Сарокіна). У гэтых адсеках ідзе сваё жыццё: на камандзірскім ярусе — свой размераны рытм, ніжэй, у простых матросаў, — свае тэмы для размоў, чалавечыя жаданні, недзе свавольствы не па ўставу. Але ў запаслівага «бульбаша» заўсёды ёсць заначка, каб сябе парадаваць нават на марскіх глыбінях. А наогул — што тыя, хто наверсе, што тыя, хто ўнізе, — усе людзі, усе маюць дом, куды хочуць вярнуцца, і тых, хто іх чакае.

Гэтая частка таксама прапісана ў п'есе: жонкі і нявесты верныя… амаль усе, апроч адной. Яе трэба было прыдумаць, таму што фактычна ўсе персанажы — выключна харошыя людзі. Драматургічнага канфлікту як такога фактычна няма. Лінія жанчын павінна ўзмацняць драматызм таго, што на нашых вачах адбываецца на пашкоджанай лодцы. І дадаваць рамантыкі, што неабходная тэатру, нават калі ён звяртаецца да эпічнай сітуацыі. Хоць рамантыку аўтар п'есы дадаў яшчэ і марскую: у выглядзе асобнага персанажа русалкі-спакусніцы, што кліча за сабой героя акцёра Руслана Чарнецкага і забірае ў свае прасторы некаторых яго сяброў. Ці яна ж ператвараецца ў даму ў чорным — нябачную радыяцыю, якая імкнецца дамагчыся свайго ў самы адказны момант — калі герой змагаецца з рэактарам. Але ў яго ёсць анёл-ахоўнік — жонка Вольга (артыстка Вераніка Пляшкевіч), што нават на дне мора здольная дапамагаць.

Трэба вярнуцца. Пра гэта думаюць і камандзіры, што на судне: справа гонару савецкіх людзей. І камандзіры, што на сушы: справа гонару для савецкай краіны. (Наогул, калі хто забыўся на савецкую рыторыку з пафасам і ідэямі, то гэты спектакль дае магчымасць камусьці панастальгіраваць, слухаючы правільныя пафасныя фразы, а хтосьці, можа, толькі паспрабуе адчуць, як гэта было калісьці.) Толькі людзі, якія былі ўнізе і рабілі справу, трымаліся, хутчэй, на ідэі самога жыцця. Герой Міцкевіч-Чарнецкі, што прыдумаў план ратавання і ішоў да рэактара, спадзяваўся выжыць сам і дапамагчы ўсім, хто апынуўся ў марскім палоне. І насуперак радыяцыі выжыў, нарадзіў дачку: ведай нашых! Беларусы мацней за нейкую там радыяцыю (як гэта сучасна гучыць, да жудасці)…

### ЗАСВЕДЧЫЦЬ

Андрэй Курэйчык пісаў гэтую п'есу па замове тэатра. Зразумела: з аднаго боку, правільная, патрыятычная гісторыя, з другога — густанаселеная, з вялікай колькасцю персанажаў-удзельнікаў. Сяргей Кавальчык як галоўны рэжысёр тэатра гэтай пастаноўкай пастараўся заняць вялікую колькасць артыстаў, асабліва з мужчынскай часткі трупы: каманда падлодкі перад гледачом — як на падбор, а яшчэ некаторых прыгожых палавінкі на беразе чакаюць. Ну і гэта драма, якая выклікае рэальныя перажыванні, нягледзячы на тое, што ўсё даўно мінула і добра скончылася. Яшчэ больш перажыванняў — калі думаеш, што магло б тады здарыцца. З няштатнай сітуацыі на падлодцы мог бы атрымацца выбух на ўвесь свет: рэакцыя пайшла б ланцугом на фоне халоднай вайны.

Сама тая вайна неяк апошнім часам узгадваецца ўсё часцей. І рыторыка савецкая гучыць усё больш — з тым жа пафасам. Таму спектакль, такое адчуванне, створаны не столькі з рэверансам да мінулага, колькі кладзецца на нашу сучаснасць, дзе з савецкім часам (як бы мы ні называлі яго постсавецкім) яшчэ не ўсё скончана. І тут, відаць, стваральнікі мелі пэўную мэту: гэты тэатральны прадукт можа быць запатрабаваны на пэўнай тэрыторыі, дзе гэтая тэма адгукаецца, ну і ў беларускай публіцы, якая шукае ў тэатры драму і хоча за кагосьці перажываць. Асабліва — за чалавека рэальнага. Ды яшчэ — свайго. Ды яшчэ фактычна супергероя.

І, аказваецца, ён можа быць блізкі, свой, з беларускім «дабранач» для дачкі, з іншымі словамі, якія праскокваюць удалечыні ад радзімы. Калі тэатр яго шукае, то, значыць, сапраўды неабходны свой рэальны чалавек, якога можна было б паказаць за прыклад. Прычым не толькі ў сваёй унутранай прасторы, а прад'явіць яго іншым, засведчыўшы: сціплыя беларусы, а справы робяць — на ўвесь свет гонар. І тут няма чым крыць, таму што ўсе ведаюць: гэта было насамрэч, свет ухіліліў ад ядзернай катастрофы прадстаўнік таго народа, што потым моцна пацерпіць ад мірнага атама. Аўтар п'есы імкнуўся актуалізаваць тую далёкую гісторыю пачатку 60-х гадоў мінулага стагоддзя, увёўшы адсылкі да Чарнобылю, які баліць Беларусі дагэтуль: памылкі, што дапусцілі пры падрыхтоўцы падлодкі і ўсталяванні рэактара на ЧАЭС, падобныя. Дробная халатнасць, за якою — чалавечыя ахвяры, зламаныя лёсы. І калі б урок падлодкі «К-19» быў зроблены і асэнсаваны цалкам, можна было б пазбегнуць вялікай бяды.

Усё гэта гучыць і чытаецца — думкі на паверхні. Яшчэ раз задумацца… Яшчэ раз нагадаць… Яшчэ раз звярнуцца… Тут усё вельмі празрыста. Так, ёсць рэчы, якія можна рабіць бясконца. Іншае пытанне: чаму вучыць гэтае мінулае, настальгію па якім нам прапаноўваюць. І добра, калі з гэтай гісторыі айчынны глядач засвоіць урок самапавагі: у нас на сцэне, здаецца, не было герояў, якія ратавалі свет…

**Ларыса ЦІМОШЫК**

*Гастролі*

# Авіньён з беларускай драматургіяй

**Міжнародны тэатральны фестываль у французскім Авіньёне сёлета пройдзе з удзелам Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі. Упершыню за апошняе дзесяцігоддзе беларускі драматычны тэатр будзе прадстаўлены на адным з найбуйнейшых фестываляў свету двума міжнароднымі праектамі — спектаклем «Гэта ўсё яна» Андрэя Іванова ў пастаноўцы нямецкага рэжысёра Монікі Дабраўлянскай і сумесным франка-беларускім праектам «Граніцы» ў пастаноўцы Аляксандра Марчанкі.**

Тэатр гасцюе ў Францыі з 7 па 30 ліпеня. За гэты час перад публікай адыграюць 11 разоў спектакль «Граніцы» і 10 разоў — «Гэта ўсё яна». Для паказаў абраныя спектаклі, якія больш за іншыя адпавядаюць «фестывальнаму» фармату, а тэмы, якія ў іх узнімаюцца, актуальныя і будуць зразумелыя сучаснай Еўропе. Напрыклад, праблемы пераходу праз межы — найперш геаграфічныя, але межы ёсць сацыяльныя, палітычныя, рэлігійныя і нават эмацыянальныя, а таксама межы паміж пакаленнямі, што актуальна наогул у любой краіне.

Арганізоўвае гэтую паездку Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі сумесна з французскай тэатральнай асацыяцыяй *«Demain le Printemps»*, з якой плённа супрацоўнічае, пры падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Пасольства Беларусі ў Францыі, Пасольства Францыі ў Беларусі. Для таго, каб мясцовыя гледачы і госці фестывалю адкрылі для сябе тэатр з Беларусі, у яго будзе магчымасць прадставіць сябе падчас прэс-канферэнцыі з удзелам прадстаўнікоў *«Demain le Printemps»* і выпускнікоў праекта *«Demain le Printemps»*, што меў на мэце навучанне акцёрскаму майстэрству ў Беларусі. Чакаецца, што пра супрацоўніцтва з беларускім тэатрам распавядзе рэжысёр Моніка Дабраўлянска.

Адзін з найстарэйшых еўрапейскіх тэатральных фестываляў (быў заснаваны ў 1947 годзе) складаецца з дзвюх частак — афіцыйнай і неафіцыйнай. Але акрамя мясцовай публікі яго наведвае мноства турыстаў. Невыпадкова: гэты фестываль вядомы прыхільнасцю да наватарскіх работ. Штогод у фестывалі ўдзельнічае больш за 300 тэатраў з усяго свету, дэманструецца больш за 1000 спектакляў. Акрамя зацікаўленых тэатралаў на фестывалі працуюць менеджары і імпрэсарыя, якія прыглядаюцца да ўдзельнікаў: гэта яшчэ і пляцоўка для знаёмстваў, новых кантактаў і, магчыма, іншых міжнародных праектаў, у якіх зацікаўлены не толькі Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі, але і наогул уся тэатральная рух Беларусі.

**Марыя АСІПЕНКА**

# КОСМАС, ФІЛАСОФІЯ І НАВУКА РАССТАННЯ

## Добрыя прыкметы для айчыннай дакументалістыкі

**Калі новыя тэмы з'яўляюцца, але старыя не сыходзяць у нябыт — вось ён, поспех. Выказванца пра тое, што хвалюе суайчыннікаў сёння, заўсёды было станоўчай рысай беларускіх дакументалістаў: нягледзячы на тое, ці вечная тэма, ці зусім нядаўні трэнд. Сёлета студыя «Летапіс» (у штаце якой — усяго 5 рэжысёраў) ужо паспела ўзрадаваць прыхільнікаў дакументалістыкі, паказаўшы «Першадрука», але далей — болей.**

### ПУСТЫЯ МЕСЦЫ

Усё пачынаецца з руйнавання быццам бы будынка, а на самай справе гледача чакае ліквідацыя зусім іншага плана. Рэжысёр Юрый Цімафееў у стужцы «Агмень» узняў праблему, якая хоць ужо і гучала з вялікага экрана (напрыклад, фільм «Ты сюды больш не вернешся» Дзмітрыя Махамета), але застаецца такой жа балючай і актуальнай. Што будзе з вёскай, якая набірае хуткія смяротныя тэмпы? Здымаўся «Агмень» у вёсцы Лактышы Ганцавіцкага раёна, побач з малой радзімай Юрыя Цімафеева. Магчыма, таму кіно і атрымалася вельмі шчырым і блізкім — з-за адчування мясцін, дзе праводзіў дзяцінства рэжысёр.

Лактышы на экране выглядаюць нібы замена бязлюднай Прыпяці — пустэча і шэрасць будынін, але не без яркіх колераў, што нагадваюць пра колішняе жыццё. Сёння ж у вёсцы нават школы ўласнай няма, таму некалькім дзеткам даводзіцца вучыцца ў суседнім пасёлку. А на месцы школы жыхары стварылі штосьці накшталт клуба — адзінай мясціны, дзе можна бавіць час у аддаленні ад цывілізацыі. Юрый Цімафееў знайшоў для свайго фільма трапнага героя, нават антыгероя ў дадзеным выпадку: ён хоць і падзяляе меркаванне пра смерць вёскі, але працягвае ўносіць у павольнае жыццё хоць нейкія зрухі. Напрыклад, арганізаваў у былой школе «пакой прапаганды здаровага ладу жыцця» згодна з шыльдай на дзвярах, а згодна са зместам пакоя — музей шкляных бутэлек.

У гэтым пакоі раз-пораз ладзяцца лекцыі пра шкоду алкаголю. Вясковы клуб з канцэртамі і мясцовымі спектаклямі, святкаванне Калядаў і паходы на рыбалку — такое жыццё ў Лактышах. Цімафееў адзначае, што здымалі фільм амаль шэсць месяцаў, здымачны працэс не зацягвалі, бо жыццё ў вёсцы заўсёды аднолькавае. І сапраўды, так лічаць нават самі героі і прыкмячаюць, што ўсе з'язджаюць, знік дзіцячы смех. Як бы жудасна гэта ні гучала, але паступова знікае і смех дарослых. За амаль паўгода здымак у Лактышах было шэсць пахаванняў, распавядае рэжысёр: «Тэма натуры, што сыходзіць, мяне заўжды цікавіла — я даўно ў ёй, гэта заўважна па маіх мінулых фільмах. І тут я планаваў зняць камедыю, але не мог прайсці міма такой сітуацыі, калі за кароткі тэрмін здымак не стала стольких людзей. Таму атрымалася нешта кшталту трагікамедыі».

Яшчэ больш трагічнасці ў фільм дадаў сам Цімафееў: адзін з нямногіх пастановачных эпізодаў быццам крычыць гледачу, што вёска памірае. Рэжысёр вырашыў зрабіць рэканструкцыю фатаграфіі, створанай больш за паўстагоддзя таму: на фоне царквы сядзелі 20 маладых жыхароў Лактышоў. Цяпер на школьным фота з гэтага сюжэта засталіся толькі тры чалавекі, няма на фоне і царквы. Але разам з гэтай драматычнасцю стужка прасякнута святлом, некаторыя кадры быццам залітыя сонцам. Цімафееў тлумачыць такі падыход да здымкі тым, што гэта абстрагаванне, погляд на рэальнасць збоку, а не знутры. Хоць атрымалася не абстракцыя, а кіно з канкрэтным, вельмі моцным мэсэджам, улічваючы, што фільм зрэжысіравала жыццё, а ролі ў ім выканалі звычайныя людзі.



*Кадр з фільма «Агмень» (рэж. Ю. Цімафееў).*

### НЯЁМКІЯ ПЫТАННІ

Праблему смерці, але ўжо чалавечай, працягнула ў сваім фільме Галіна Адамовіч. Для гераіні стужкі «Чужое і сваё» Ганны Гарчаковай смерць — не пусты гук, а з'ява, з якой яна сутыкаецца ледзьве не штодня, бо працуе дырэктарам дзіцячага хоспіса. Менавіта таму і атрымалася кіно сур'ёзнае, вельмі трагічнае, але ўсё ж жыццесцвярджальнае, бо хто, калі не Гарчакова, ведае, як сумяшчаць два гэтыя супрацьлеглыя тэрміны. Галіна Адамовіч падзялілася гісторыяй, як яна прыйшла ў хоспіс, каб пазнаёміцца з будучай гераіняй свайго кіно: дырэктар хоспіса пачала размаўляць з рэжысёрам пра завушніцы, замежныя краіны, але толькі не пра хваробу: яна вельмі любіць жыццё, што бачна і ў карціне. Але ж не забываецца пытацца ў кожнага, з кім сустракаецца: «А як ты хочаш памерці?»

«Чужое і сваё» — гэта чарговая (на падобную тэму на «Беларусьфільме» ў 1993 годзе знятая стужка «Імгненні радасці» Басава) кінематаграфічная спроба навучыць гледача задаваць сабе няёмкія пытанні, шукаць адказы на іх і задумацца пра фінал. Недарэмна Адамовіч адразу папярэджвае публіку падрыхтавацца маральна і фізічна, бо наперадзе чакае вельмі складанае падарожжа: «Чаму я вырашыла здымаць? Тэма вельмі добрая, а гераіня — сапраўдны герой, асабліва для дакументальнага кіно. Тэма неверагодная, бо тут ты задаешся пытаннямі жыцця і смерці, якія датычацца кожнага з нас. Менавіта таму фільм і назвалі «Чужое і сваё», бо калі з кімсьці здараецца нейкая гісторыя, усё роўна мы пачынаем праецыраваць яе на сябе».

Як заўважаў Талстой, чалавечае няшчасце вельмі рознае. Гісторыі абсалютна супрацьлеглых людзей, абсалютна розных хвароб і характараў доўга не складаліся ў Адамовіч у пазл — хацелася распавесці пра хоспіс, пра людзей і іх справу, пра эмоцыі і пачуцці. Словам, спрабавала ўмясціць у 40-хвілінны фільм цэлы сусвет, які ў выніку не развaліўся б на аскепкі. Гісторыі плаўна пераходзяць адна ў другую, чырвонай ніткай праз стужку праходзіць лінія жыцця самой Ганны Гарчаковай, якая кожны год піша завяшчанне (каб прааналізаваць сябе і паразмаўляць з сабой пра смерць), а шэраму адлюстраванню рэалій існавання хоспіса надае яркіх фарбаў гераіня-мастачка Ганна Балаш, якая размалёўвае сцены будыніны ў колеры раю.

Як прызнаецца рэжысёр, яна плакала на працягу амаль усіх здымак (а гэта 8 месяцаў), і медсястра ацвярозіла яе тым, што слёзы тут нікому не патрэбныя. І сапраўды, калі верыць відэашэрагу, бацькі хворых дзяцей перасталі ліць слёзы ўжо даўно, як і задаваць пытанне «за што?», як і ўспрымаць сітуацыю як пакаранне. У «Чужым і сваім» слабасці няма наогул — ад першага і да апошняга героі, якія часам нават рухацца не могуць, вядуць барацьбу з жорсткім навакольным светам, цягнуцца да таго, хто прымае іх, і выціраюць слёзы слабейшым за іх бацькам. Натуральна як на фронце. Як не бывае плюса без мінуса, так і жыцця — без смерці. Пра гэта Адамовіч таксама распавяла, нават паказала, без аніякай жорсткасці і страху, маўкліва і празрыста, каб глядач зразумеў, што трэба быць асцярожным да чужога гора. Яшчэ адным важным пастулатам рэжысёра стала і праблема сацыялізацыі: ці гатовае наша грамадства прыняць асаблівых людзей, ставіцца да іх з павагай, а не са спачуваннем? Адказы варта шукаць…

### ПАКАЗЧЫКІ ЛЮБОВІ

У Віктара Аслюка заўсёды атрымлівалася паказаць космас мясцін і людзей. У кожным з фільмаў гэтага рэжысёра бачыцца не толькі свая філасофія, але і ўласны мікрасусвет унутры Беларусі. Сусвет паэтычны ён паспрабаваў паказаць у фільме з даволі прамалінейнай назвай «Янка Купала». Але кіно атрымалася не зусім звычайнае — наўрад ці такім мы прывыклі бачыць стужкі пра выбітных дзеячаў беларускай культуры.

Справа ў тым, што самога паэта ў фільме быццам і няма — вось дыпламаты, паслы розных краін у Беларусі чытаюць яго вершы: хтосьці — на сваёй роднай мове, а хтосьці — на беларускай; а вось дзеці катаюцца на роварах і дакладна не ведаюць, хто ж такі Янка Купала. Віктар Аслюк вырашыў пайсці шляхам не больш простым ці больш складаным, а проста іншым: па-першае, зрабіць так, каб пра Купалу гаварыў не ён сам, а людзі, да паэзіі не датычныя; а па-другое, падштурхнуць гледача да развагі пра больш метафізічныя рэчы, чым вершы, кшталту ўсведамлення сябе беларусам.

А як гучыць Купала на кітайскай мове? Ці ўплывае менталітэт іншаземца на эмацыянальны мэсэдж вершаў Купалы? Звяртаннем да замежнага Аслюк спрабуе падкрэсліць блізкасць, беларускасць паэта, якога нават на чужой мове ні з кім не пераблытаеш. Але ў фільме надта мала вясёлкавых колераў. Вось вясковыя хлопцы, у якіх рэжысёр пытаецца пра Купалу і атрымлівае адказ, што «ў школьнай праграме да яго яшчэ не дайшлі». З аднаго боку — дыпламаты, а з другога — хлопцы, і ці з'яўляюцца першыя паказчыкам усенароднай любові да Янкі Купалы?

Любоў гэтую ў народзе і трэба шукаць, так і зрабіў рэжысёр. Вяскоўцы, вядома, саромеліся, вершаў не памяталі, але з пачуццём адказнасці перад Песняром казалі ў адзін голас, што «ў жыцці працоўнаму чалавеку без паэзіі жыць нельга». Ды і задаваліся пытаннем, дзе ж узгадаць вершы (хоць на вёсцы часам спяваюць «Явар з калінаю»)? Па тэлебачанні іх няма, там наогул усё на рускай мове. Аслюк не паказаў Купалу, не дазволіў героям распавядаць пра яго заслугі і ўнёсак, нават даў ім магчымасць падацца крыху разгубленымі: хлопец на школьным уроку спяваў «Спадчыну» і забыўся тэкст. Рэакцыя Купалы на гэта была роўна такой жа, як і рэакцыя аднакласнікаў: ён усміхнуўся ўскрайкам вуснаў, нібы спачуваючы гарэзе… А адкуль Купалава ўсмешка? Гэта заслугоўвае асобных слоў, бо ў Віктара Аслюка атрымалася знайсці каштоўныя кадры дарэвалюцыйнай хронікі: тут і верш «А хто там ідзе?», кадры, знятыя ў Бранскай вобласці, беларускія тыпажы і, канечне, Купалава ўсмешка. Апошняя, дарэчы, выклікае ў гледача вельмі яркую рэакцыю.

Рэдактар студыі «Летапіс» Уладзімір Мароз адзначае, што «Аслюк стварыў такое кіно, якое абуджае думкі пра нашу жорсткую рэальнасць у становішчы з мовай і літаратурай, недасведчанасць людзей у гэтых пытаннях. У гэтым сэнсе стужка вельмі карысная, яе можна нават назваць публіцыстычнай і, безумоўна, зробленай па-майстэрску». Але самога Янку Купалу ў фільме знайсці будзе складана: ён няўлоўны, празрысты, нават эфемерны, а вось беларускіх рэалій на экране дастаткова.

Штогод беларускія дакументалісты ставяць сабе ўсё больш складаныя задачы: адыходзіць ад звыклых прыёмаў, шукаць незвычайных герояў, здзіўляць новымі задумамі. Адзінае пытанне — для каго старацца? Кінематаграфісты ўвесь час у пошуку і чаканні не толькі ідэй фільмаў, але і ўдумлівага гледача, які зможа ацаніць іх намаганні.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**



*Анатоль Бондар, Соф'я Логінава, Лідзія Кармальская, Міхаіл Рамановіч. Каля 1964-1965.*

# АВАНТУРЫСТЫ,
## ці Як здабываўся «Гілд»

У снежні 2016 года прыхільнікі творчасці Уладзіміра Мулявіна атрымалі выдатны падарунак — новую кнігу «Уладзімір Мулявін і Лідзія Кармальская. Недасказанае…». Кнігу стварылі старэйшая дачка Песняра Марына Мулявіна і аўтар гэтых радкоў. Аўтарам кнігі ўдалося стварыць жывыя партрэты Уладзіміра Мулявіна і яго першай жонкі Лідзіі Кармальскай, з якой музыкант пазнаёміўся ў 1959 годзе ў Томску падчас працы абаіх у Томскай абласной філармоніі.

Кармальская выступала ў арыгінальным жанры мастацкага свісту, была таленавітай і запатрабаванай артысткай. Іх звязала вялікае ўзаемнае пачуццё. Разам Мулявін і Кармальская вандравалі па шматлікіх філармоніях Сібіры і Запаляр'я, пакуль у 1963 годзе не апынуліся ў Мінску. Тут — зноў-такі разам — яны пачалі працаваць у зборных канцэртных брыгадах Беларускай дзяржаўнай філармоніі: яна — артысткай арыгінальнага жанру, ён — гітарыстам інструментальнага ансамбля. Потым Мулявіна прызвалі ў армію, а неўзабаве пасля дэмабілізацыі ён стварае вакальна-інструментальны ансамбль "Лявоны" (пазней — "Песняры"), у склад якога са сваімі асобнымі нумарамі таксама ўвайшла Лідзія Кармальская. «Мама была адзінай артысткай, у якой "Песняры" стаялі на бэк-вакале», — жартуе Марына Мулявіна.

У кнігу «Уладзімір Мулявін і Лідзія Кармальская. Недасказанае…» увайшлі цікавыя ўспаміны былых калег Мулявіна і Кармальскай па працы ў Белдзяржфілармоніі. Адзін з іх, Міхаіл Рамановіч, распавёў амаль «крымінальную» гісторыю з'яўлення ва ўласнасці Мулявіна амерыканскай электрагітары «Гілд». Многія ведаюць, што гэта была любімая гітара Песняра, з якой ён не расставаўся доўгія гады. Друкуем урывак з кнігі, дзе Міхаіл Рамановіч апавядае пра тое, як кантрабандным чынам дапамог Песняру набыць гэты дарагі і прэстыжны інструмент.

...Міхаіл Рамановіч нарадзіўся 10 ліпеня 1933 года ў вёсцы Любачын Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці. Неўзабаве пасля нараджэння разам з бацькамі трапіў у Аргенціну, дзе пражыў да 22 гадоў. Свабодна размаўляе па-іспанску. Скончыў кансерваторыю «Мансуці» ў Буэнас-Айрасе. Працаваў у Белдзяржфілармоніі з 1955 па 2007 год у якасці акардэаніста і адміністратара.

— Я цудоўна ведаў Валодзю Мулявіна яшчэ да яго службы ў арміі. Ён працаваў у звычайнай зборнай брыгадзе — іграў, акампаніраваў, і мы ездзілі па розных гарадах з канцэртамі. Я працаваў у брыгадзе Мікалая Халезіна і Сцяпана Машынскага. Гэта быў вакальны дуэт. Яны спявалі некалькі песень. Зробленыя гэтыя песні былі выдатна. Нейкі знакаміты рэжысёр з Масквы ім паставіў праграму, і яны выступалі паўсюль з вялікім поспехам. Ішлі першымі нумарамі, «чырвоным радком» у афішах. Яны закрывалі канцэрт. З намі таксама працавалі Уладзімір і Вера Жыляевы, танцавальна-акрабатычны дуэт. У іх быў нумар па матывах казкі пра Царэўну-жабку: Іван Царэвіч ідзе на паляванне, страляе і трапляе ў жабку, і яна ператвараецца ў царэўну. І вось яны ўдвух разыгрывалі гэты сюжэт. Вядучых было двое: Карл Коцін і Анатоль Бондар. Яны выступалі ў парным канферансе. Потым адбылося маленькае папаўненне: прыйшла Ліда. Мы былі вельмі рады, таму што ў нас у брыгадзе з'явілася маладая прыгожая жанчына. А яна была сапраўды вельмі прыгожая. Вельмі! І такая кампанейская, душэўная! Мы з ёй пасябравалі і на гастролях увесь час былі разам, на мора хадзілі загараць і купацца. Але не толькі мы ўдваіх. Яшчэ ў нас таварыш быў, Толя Бондар.

Ліда Кармальская працавала ў жанры мастацкага свісту. Выходзіла з трыма нумарамі: «Салавей» Аляб'ева, «Венскі вальс» Штрауса і «Чардаш» Монці. Унікальная, высокапрафесійная артыстка! У яе быў фантастычны слых, найчысцейшая інтанацыя. Яна высвіствала вельмі складаныя творы. Мы ёй акампаніравалі невялікім ансамблем, якім кіраваў я. Сам я іграў на акардэоне, браты Грышкевічы — Ваня і Коля — адпаведна на гітары і кантрабасе. Дакладней, на электрагітары і электрабасе. Ужо ў той час Мікалай Грышкевіч выкарыстоўваў электрычны кантрабас, падобны да вялікай плоскай палкі. У камандзіроўках гэта рэч была незаменнай, бо займала не столькі месца, колькі вялікі акустычны кантрабас. Ліда выступала ў прыгожай малінавай сукенцы, лёгкай, вытанчанай. Глядзелася вельмі элегантна… На памяць аб нашай сумеснай працы і сяброўстве засталося некалькі аматарскіх фотаздымкаў. Яны былі зроблены на гастролях па Украіне і Закаўказзі ўлетку 1965 года.



*Квартэт Міхаіла Рамановіча: Уладзімір Шышкоў (гітара), Сямён Пікер (кларнет), Міхаіл Рамановіч (акардэон), Браніслаў Сармонт (кантрабас). Кастрычнік 1959 г.*

Аднойчы — гэта было ўвосені 1966 года — цэлы месяц мы працавалі разам у адной брыгадзе і з Лідай, і з Валодзем. Ён служыў у ансамблі БВА, але яго тады адпусцілі на месяц, таму што ў нашай брыгадзе не было гітарыста, а Халезін і Машынскі рыхтаваліся да конкурсу ў Маскве. У выніку на конкурс паехалі Вуячыч і Багуслаўская, а мы ўсёй нашай брыгадай выправіліся на гастролі ў Брэсцкую вобласць і выдатна там правялі час, зарабілі грошай.

Увосень 1972 года я стаў удзельнікам адной незвычайнай гісторыі, дзякуючы якой ва ўласнасці Валодзі Мулявіна з'явілася новая амерыканская электрагітара «*Guild*».

Было так. Недзе ў пачатку кастрычніка 1972 г. у Мінск на гастролі прыехаў знакаміты спявак Рафаэль. Я быў ад яго ў захапленні: напярэдадні, улетку, я паглядзеў фільм «Няхай гавораць» з Рафаэлем у галоўнай ролі. Ён у гэтым фільме ўвесь час спявае і іграе самога сябе. Такі цікавы сюжэт! Ён плыве на караблі з Іспаніі ў Аргенціну, каб знайсці свайго брата, але ніяк не можа з ім сустрэцца. Аказваецца, брат быў у турме і не атрымліваў яго пісем. Але ён усё шукаў, шукаў яго і потым у нейкім шынку пачуў, як піяніст іграе знаёмую з дзяцінства музычную тэму. І ён заходзіць у гэта кафэ і бачыць за фартэпіяна свайго брата. Пасля доўгіх гадоў яны нарэшце сустрэліся. Я глядзеў гэты фільм і плакаў, бо ў Аргенціне ў мяне жыў брат! І я тужыў па ім. Мне таксама так хацелася ўбачыць свайго брата, паглядзець на яго! Неўзабаве пасля таго, як я ўбачыў гэты фільм, Рафаэль прыехаў у Мінск са сваімі музыкамі. А я, калі прыязджалі лацінаамерыканскія, іспанскія артысты, заўсёды з імі знаёміўся. Не было такога выпадку, каб я з кімсьці з іх не сустрэўся. У дзень канцэрта Рафаэля я прыйшоў у Палац спорту за кулісы і адразу ж сутыкнуўся з ім твар у твар. Кажу: «Буэнос ночес!» і прадстаўляюся, што жыў больш як 20 гадоў у Аргенціне, у Буэнас-Айрасе, што ведаю іспанскую мову.

— О-о-о! А ў мяне ў калектыве працуе гітарыст з Аргенціны! Яго завуць Санцьяга, — гаворыць Рафаэль.

Я спытаў, як мне адшукаць гэтага Санцьяга, і Рафаэль паказаў пакой, дзе той пераапранаўся перад канцэртам. Я пастукаў і зайшоў. Перада мной стаяў круглатвары мужчына сярэдніх гадоў, даволі мажны і каржакаваты. Я адрэкамендаваўся.

Пагаварылі, потым пачаўся канцэрт. І пасля канцэрта амаль увесь калектыў Рафаэля пайшоў у рэстаран гасцініцы «Юбілейная», дзе яны жылі. Гэта насупраць Палаца спорту. Самога Рафаэля, дарэчы, сярод іх не было. Я далучыўся да Санцьяга і зайшоў у рэстаран разам з ім. Гляджу, за столікам сядзіць кампанія: Валодзя Мулявін, Ліда Кармальская, Шурык Дзямешка, яшчэ нейкія хлопцы з «Песняроў». Быў не ўвесь ансамбль, але вялікая група, чалавек пяць, сядзелі, вячэралі. Яны ўсе былі на канцэрце. Мы з Санцьяга праходзім міма іх, і тут Валодзя мяне кліча:

— Міша, хадзі сюды!

Ну, я гэтаму Санцьяга кажу:

— Зараз я падыду. Мяне кліча адзін вельмі добры музыкант.

Падыходжу да іх століка:

— Прывітанне, хлопцы!

Усе вітаюцца, а Валодзя з шалёнымі вачыма накідваецца на мяне:

— Міша, дарагі! Зрабі ўсё магчымае! Я хачу купіць у гэтага хлопца электрагітару! Уся надзея на цябе!

— Ну, добра. Я пагутару з ім.

— Пагутары менавіта цяпер!

— Добра, цяпер і пагутару.

— Я буду чакаць!

— Добра.

І я пайшоў, у самы канец залы, дзе ўжо сядзелі музыканты. Іх групе накрылі стол асобна, удалечыні ад усіх, каб ніхто не перашкаджаў. Стол быў шыкоўны! Апроч рэстаранных страў яны адкрылі іспанскія кансервы, якія прывезлі з сабой. Такая смаката! Пад нашу рускую гарэлку ўсё пайшло на выдатна. Я выбраў зручны момант і кажу Санцьяга:

— Тут у рэстаране сядзіць адзін музыкант, Валодзя Мулявін. У Саюзе ён — самы выдатны музыкант і гітарыст, лепш за яго няма! Ён хоча купіць у цябе гітару.

Сапраўды, я лічыў, што Валодзя — лепшы за ў Саюзе гітарыст, таму гаварыў пераканаўча, і гэта спрацавала.

— Пасля вячэры зойдзем да мяне ў нумар, пагаворым, — сказаў Санцьяга.

Мы яшчэ крыху пасядзелі, добра выпілі, закусілі. І пайшлі назад, на выхад. Бачу, Валодзя разам з усёй кампаніяй сядзіць на сваім месцы. Падыходжу да яго:

— Валодзя, пайшлі!..

**Вольга БРЫЛОН**



*Санцьяга і Рафаэль.*

**Працяг будзе.**

# Храм для мастака

## Запрашэнне да філасофскага дыялогу

**Творчасць, якая прыцягвае не толькі знешнім эфектам, але і дазваляе адчуць глыбокі змест, ідэю, заўсёды будзе актуальнай і запатрабаванай. Напрыклад, работы мастака Усевалада Швайбы спараджаюць шэраг філасофскіх разважанняў, у якіх ты знаходзіш важныя думкі, адгукаешся на іх і сам не заўважаеш, як становішся ўдзельнікам творчага дыялогу з аўтарам і яго героямі. Цягам ліпеня работы майстра экспануюцца ў арт-прасторы «Высокае места» на выстаўцы «Храм».**



*«Анёл паэзіі».*

Калі дагэтуль вы не былі знаёмыя з творчасцю Усевалада Швайбы, то будзьце ўпэўнены: убачыўшы ўпершыню яго карціны і графіку, аўтарскі почырк запомніце назаўсёды. Мастак — эстэт, раскрывае душу праз адлюстраванне жаночых грацыёзных вобразаў, акцэнтуе ўвагу на целе чалавека, якое лічыць храмам, што ў любы момант можа быць асветлены альбо апаганены. У гэтым і ёсць філасофскі складнік твораў: мастак заклікае гледача зразумець, чаго ён хоча ад жыцця і як больш камфортна існаваць у ім.

На думку Усевалада Швайбы, адна з важных мэт чалавека — знайсці храм у сабе і берагчы ўсё жыццё. А калі атрымаецца, што нехта яго знішчыць, на месцы старога разбуранага храма «за тры дні ўзвесці іншы, нерукатворны». Гэтая ідэя аб'ядноўвае ўсе творы экспазіцыі.



*«Armaturamater».*

У работах мастака прасочваюцца агульныя матывы для славянскай і антычнай міфалогіі. Майстар дэманструе захапленне жаноцкай прыгажосцю і абаяльнасцю. На яго палотнах — жанчыны, у рысах якіх адначасова захоўваюцца матывы мінулага і цяперашняга. Такім чынам, майстар стварае повязь часоў і не дазваляе гледачу падзяляць сваю творчасць на пэўныя перыяды. Важна, што творы аўтара не пакідаюць адчування недасказанасці, яны лёгкія, нават меладычныя. Мастацтвазнаўцы адзначаюць, што экспазіцыя Усевалада Швайбы — своеасаблівае падарожжа да сябе.

Тэматыка і тэхніка работ Усевалада Швайбы розныя. Ён займаецца як жывапісам, так і графікай, звяртаецца да рэалістычнага жывапісу, пейзажаў, нацюрмортаў, партрэтаў, сюррэалізму і элементаў славянскай культуры. Мастак выкарыстоўвае такія матэрыялы, як туш, папера, палатно, алейныя фарбы. Але пры гэтым дасягае эфекту празрыстасці і нематэрыяльнасці прасторы. Гэта той выпадак, калі аўтар валодае не толькі звыштонкім адчуваннем рэчаіснасці, але і майстэрствам адлюстроўваць сваё светаўспрыманне.

Назва экспазіцыі «Храм» не толькі падказвае канцэпцыю выстаўкі, праз якую кожны можа задумацца пра сэнс жыцця, але і раскрывае мастака як філасофа. На выстаўцы ў большасці прадстаўлены графічныя творы мастака, якія варта аналізаваць. Пасля прагляду думкі складваюцца, быццам пазлы, у агульную карціну. У гэтым і заключаецца аўтарская задума. Арганізатары ўдала сфарміравалі выстаўку: графічныя творы прадстаўлены на першым паверсе галерэі, а жывапісныя — на другім. Такім чынам, глядач адразу ўспрымае графіку, яго ўвагу не адцягваюць яркія колеры і вялікі памер карцін, а ўжо на другім паверсе перад вачыма паўстае шыкоўная панарама жаночых партрэтаў, якія не пакінуць абыякавымі.

**Вікторыя АСКЕРА**

***Культурны ракурс***



**На старым Кацярынінскім шляху, непадалёк ад мяжы з Украінай, за сорак кіламетраў на паўднёвы ўсход ад Гомеля, месціцца вёска Гадзічава.**

**У цэнтры паселішча — храм, які вельмі нагадвае гомельскі Петрапаўлаўскі сабор у мініяцюры.**

**Нядзіўна, бо абодва пабудаваны ў стылі класіцызму па праектах архітэктара Джона Кларка і па ініцыятыве ўладара гэтых зямель Мікалая Румянцава. Узвялі храм у пачатку XIX стагоддзя. Інфармацыйныя крыніцы даюць розныя даты яго пабудовы, больш за тое, нават розныя назвы. Але ў царкве зберагаецца памятная дошка з надпісам: «3 числа июля месяца в 22 лето царствования Государя императора Александра Павловича заложен храм сей во имя святыя великомученицы Екатерины иждивением государственного канцлера графа Румянцева». Такім чынам, Гадзічаўскі храм быў закладзены ў 1822 годзе і носіць імя Святой вялікамучаніцы Кацярыны. Царква ўключана ў спіс помнікаў гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь.**

**Святая вялікамучаніца Кацярына жыла ў IV стагодзі ў Егіпце. Прыгожая, багатая, адукаваная, ды вельмі ганарлівая. Дзякуючы маці Кацярына прыняла хрысціянства, што рэзка змяніла яе і стаўленне да жыцця і людзей. Падчас ганенняў Кацярыну прымушалі адрачыся ад веры, інакш — смерць. Але дзяўчына, як і многія хрысціяне першых вякоў, рашуча выбрала апошняе.**

**Гэтую святыню я наведаў разам з маім унукам Дзянісам. І пажадаў такой цвёрдасці ў выхаванні прынцыповых пытанняў.**

**Яўген ШАСТАКОЎ**

***Да ўвагі чытачоў! «ЛіМ» і ў новым годзе працягвае конкурс «Культурны ракурс». Умовы творчага спаборніцтва змешчаны ў № 2 нашай газеты. Чакаем цікавых і крэатыўных фотаздымкаў з арыгінальным тлумачэннем.***


ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
16 +

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Рэдакцыйная калегія:
Таццяна Арлова
Алесь Бадак
Дзяніс Барсукоў
Віктар Гардзей
Уладзімір Гніламёдаў
Вольга Дадзіёмава
Жана Запартыка
Анатоль Казлоў
Алесь Карлюкевіч
Анатоль Крэйдзіч
Віктар Кураш
Алесь Марціновіч
Вячаслаў Нікіфараў
Мікалай Чаргінец
Іван Чарота
Іван Штэйнер



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.zviazda.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51



Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
А. І. Грамыка

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк
6.07.2017 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1501.

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 2589

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі аўтараў публікацый.

© Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, 2017
© ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», 2017
© Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"», 2017


ISSN 0024-4686